# ЗВЯЗДА

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

18 кастрычніка 1991 г.
ПЯТНІЦА
№ 201 (21729)
Цана 20 кап.


## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### АБ ВІЗІЦЕ В. ЛАНДСБЕРГІСА Ў БЕЛАРУСЬ

**ВІЛЬНЮС. (Кар. ТАСС Казіс Усцыла). Намечаны на сёння візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Вітаўтаса Ландсбергіса ў Беларусь пераносіцца на 22 кастрычніка. Паводле атрыманых карэспандэнтам ТАСС у літоўскім парламенце даных, рашэнне аб пераносе візіту прынята па ўзгадненню з беларускім бокам пераважна з-за занятасці кіраўніка літоўскага парламента.**

**У выніку праведзенай гутаркі па тэлефоне Вітаўтаса Ландсбергіса са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам намечана, што кіраўнік літоўскага парламента ў час знаходжання ў Мінску выступіць на пасяджэнні Вярхоўнага Савета суседняй рэспублікі. Чакаецца, што Шушкевіч 24 кастрычніка наведае Вільнюс з візітам у адказ і таксама выступіць з прамовай перад дэпутатамі літоўскага парламента. У гэты ж дзень павінна быць падпісана двухбаковае камюніке.**

### ІШОЎ САЛДАТ У БОЙ...

**САЛІГОРСК. (М. Лойка). Пры правядзенні меліярацыйных работ ля ракі Случ знойдзены астанкі савецкага воіна. Побач саржавелая каска, аўтамат. Мяркуецца, што загінуў воін пры фарсіраванні ракі. 30 чэрвеня 1944 года ў гэтых месцах ішоў бой за пераправу праз Случ. Немцы замініравалі мост, але імклівы ўдар танкавай групы на чале з лейтэнантам Мікалаем Зіноўевым не дазволіў яго ўзарваць.**

На беразе ракі, дзе знойдзены астанкі невядомага салдата, адбыўся жалобны мітынг. Пахавалі яго на раённым мемарыяльным комплексе «Ахвярам фашыстаў».

### «СЕМ Я»

**ГРОДНА. (А. Дук). Такую незвычайную назву носіць новая грамадская арганізацыя, якая зарэгістравана ў горадзе. Яна ўтворана і будзе дзейнічаць пры абласным аддзяленні Дзіцячага фонду імя Леніна.**

На першай канферэнцыі мнагадзетных сем'яў быў выбраны савет у складзе 7 чалавек. У першую чаргу ён будзе весці строгі ўлік тых, хто мае патрэбу ў неадкладнай дапамозе. Усё роўна, ад каго яна прыйдзе — ад дзяржавы, прадпрыемстваў або грамадскасці, галоўнае, каб мнагадзетныя сем'і ведалі, што ў складаны час пра іх хтосьці клапоціцца. Увогуле, арганізацыя збіраецца абараняць інтарэсы і адстойваць правы мнагадзетных сем'яў.

### ЖАНЧЫНЫ СТАНУЦЬ ПРЫГАЖЭЙШЫМІ

**АСТРАВЕЦ. Сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства плануе наладзіць у горадзе выпуск шампуняў і крэмаў. Заснавальнікамі новага прадпрыемства выступілі мясцовы райспажыўсаюз, калгас імя Кірава і вядомая польская фірма «Палена». Гадавы аб'ём прадукцыі, па папярэдніх падліках, складзе каля 40 мільёнаў рублёў.**

Дарэчы, наш бок прадастаўляе памяшканне, электраэнергію і рабочую сілу, а калегі з Польшчы — абсталяванне і ўвесь комплекс тэхналогій.

### НОВЫ ШЛЯХ У ВНУ

**НАВАГРУДАК. Шлях да Гродзенскага сельгасінстытута хутка будзе пралягаць праз мясцовы саўгас-тэхнікум. Пасля пераўтварэння яго ў каледж выпускнікі гэтай навучальнай установы атрымаюць права стаць студэнтамі. Думайце самі, вырашайце самі...**

### ПРА ТЭЛЕФОНЫ І БУСЛОЎ

**БРЭСТ. (Ю. Фёдарава). Сувязістам прыйшлося пачакаць з адной з самых неадкладных работ, пакінуўшы яе на восень. А дакладней — пачакаць да адлёту буслоў у Афрыку, дзе, як вядома, яны зімуюць.**

Справа ў тым, што многія буслы пабудавалі сабе гнёзды на апорах тэлефонных камунікацый. Цяпер у гэтых паветраных камунікацыях няма неабходнасці: іх замянілі падземныя кабелі сувязі. Аднак як дэманціраваць непатрэбныя тэлефонныя апоры, якія, дарэчы, прыносяць шмат нязручнасцей земляробам пры апрацоўцы палёў, калі на іх жывуць бусліныя сем'і з маленькімі птушаняткамі? Таму і прыйшлося чакаць, пакуль буслы навучацца лятаць і адлятуць у вырай.

Між іншым, у шэрагу выпадкаў сувязісты перанеслі гнёзды на бліжэйшыя дрэвы. Праўда, невядома, ці спадабаюцца яны вясной буслам. Урэшце, відаць, гэта не вельмі спужае птушак: на Палессі да іх адносяцца вельмі дружалюбна і дазваляюць будаваць гнёзды ў любым месцы.

### ЧАРГОВАЯ «АЙЧЫНА»

ГРОДНА. Міністэрствы культуры і народнай адукацыі, гарвыканком, шэраг прадпрыемстваў вобласці выступілі заснавальнікамі гарадскога дабрачыннага культурна-асветніцкага фонду «Айчына». На чале фонду — пісьменнік М. Карпюк і парламентарый Н. Маркевіч. У планах — адраджэнне беларускай культуры, выпуск гарадской беларускай газеты і іншыя карысныя пачынанні. Што атрымаецца — убачым.

### «У ГРЫБАХ—НЕБЯСПЕКА»

**СВЕТЛАГОРСК. (У. Кохна). Такая заметка з'явілася ў газеце «Светлагорскія навіны». Светлагорцаў папярэджваюць, што аналізы грыбоў на ўтрыманне ізатопаў цэзію, праведзеныя лабараторыяй радыеметрычнага кантролю мясцовай гаррайінспекцыі па экалогіі, выявілі небяспечныя ўзроўні забруджвання.**

Гэта чорныя груздзі, апенькі, маслякі, баравікі і мноства іншых грыбоў.

У журавінах таксама адзначана павышанае ўтрыманне ізатопаў цэзію. Так што радыяцыя распаўзаецца. Бо яшчэ зусім нядаўна становішча ў раёне са зборам грыбоў было значна лепшым.



ПЛАВАЛЬНЫ БАСЕЙН і былінную крэпасць, за якой размясціўся спортгарадок, іграві комплекс «Паляна казак» і сучасныя камп'ютэры — усё гэта атрымалі ў сваё распараджэнне дзеткі яслей-сада работнікаў вытворчага аб'яднання «Будіндустрыя», што ў Талачынскім раёне.

Амаль паўтара мільёна каштавала прадпрыемству гэтая навабудоўля. Але ўменне гаспадаранне дазваляе калектыву аб'яднання атрымліваць добры прыбытак не толькі ў рублях, але і ў валюце.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі дзіцячага фальклорнага калектыву «Пацеркі».

**Фота А. ЦЕРЛЮКЕВІЧА (БЕЛТА).**

# СТО ТРЫЦЦАЦЬ ПЫТАННЯЎ ДА В. КЕБІЧА

**Прэзідэнт Б. Ельцын сваімі нечаканымі крокамі — увядзеннем «свабодных» цэн і рускага рубля — унёс значныя папраўкі ў пазіцыю ўрада В. Кебіча па шэрагу жыццёва важных для рэспублікі праблем. Прынамсі, учора раніцай, калі беларускі Прэм'ер-міністр адказваў на больш як 130 пытанняў, што паступілі яму ад народных дэпутатаў, — то не ўтойваў, што некаторыя загадзя падрыхтаваныя ім адказы за мінулыя суткі паспелі састарэць. Гэта ў далейшым, пры абмеркаванні даклада, дало падставу дэпутату Я. Новікаву назваць такую палітыку, якую трэба кардынальна мяняць за лічаныя гадзіны, — панікай. Аднак наўрад ці В. Кебіч вінаваты ў тым, што любы нораў нашага былога «старэйшага брата» так балюча адбіваецца на эканамічным самаадчуванні Беларусі.**

**Пра што ж ішла размова ў час напружанага дыялога парламента са Старшынёй Савета Міністраў?**

#### ПРА НОВЫЯ ЦЭНЫ І «ШОКАВУЮ ТЭРАПІЮ»

«Свабодныя» цэны, аказваецца, намнога бліжэй, чым меркавалася.

«Сёння раніцай я даведаўся, што Расія ўводзіць свабодныя цэны ў самым блізкім будучым. Таму, відаць, усе нашы ранейшыя планы ў гэтым кірунку давядзецца мяняць», — гэтай сваёй заявай Вячаслаў Францавіч выклікаў лёгкі шум у зале. Да гэтага часу планавалася, што рознічныя цэны да 1992 года мяняцца не будуць. Цяпер жа, бадай, ніхто ва ўрадзе не можа гарантаваць, што мы зможам увайсці ў рынак без хваравітай «шокавай тэрапіі», якую давядзецца прымяняць адразу ўслед за нашым усходнім суседам. Прамаруджванне ў гэтай справе можа каштаваць мільярдных страт і эканамічнага краху.

Як выявілася, В. Кебіч спадзяецца, што кропкі над «і» расставіць падпісанне эканамічнага пагаднення, але цвёрдай упэўненасці ў тым, што гэта адбудзецца сёння, 18 кастрычніка, у Прэм'ера няма. Вячаслаў Францавіч паведаміў, што напярэдадні меў размовы з высокапастаўленымі службовымі асобамі Азербайджана і яшчэ адной былой саюзнай рэспублікі, якія заявілі, што іх дэлегацыі не паедуць у Маскву на падпісанне пагаднення.

#### ПРА НОВЫЯ РАСІЙСКІЯ РУБЛІ І БЕЛАРУСКІЯ ГРОШЫ

Заява Б. Ельцына аб тым, што ўсе рублі на тэрыторыі Расіі будуць пазначаны трохколернай бела-блакітна-чырвонай палоскай, — і В. Кебічам, і дэпутатамі, якія выступалі ўслед за ім, — была ацэнена адназначна: як цяжкі ўдар, як недазволены прыём з боку Расіі ў дачыненні да Беларусі. Як можна прадбачыць, адразу ўслед за ўвядзеннем «трохколерных» рублёў рублі, не пазначаныя расійскім сцяжком, усёй сваёй масай рынуцца на штурм рынкаў тых рэспублік, якія не паспелі загадзя падумаць пра ўласныя грошы. Паслухмяная Беларусь, якая заўсёды асцярожна ставілася да гэтых ідэй і трымалася за агульны рубель, разам з гэтым рублём у такім выпадку адразу пойдзе на дно. Таму Прэм'ер адназначна выказаўся за тое, што ўвядзенне ўласнай грашовай сістэмы непазбежнае. Як кажуць у такіх выпадках, лепш позна, чым ніколі.

#### ПРА ЧЛЕНАЎ УРАДА, ЯКІЯ ВЫРАШЫЛІ ЗАНЯЦЦА БІЗНЕСАМ

Інфармацыя пра тое, што некаторыя высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі паралельна з дзяржаўнай службай актыўна робяць грошы ў сумесных прадпрыемствах і кааператывах — нарабіла нямала шуму ў сценах парламента. Такая актыўная рэакцыя прымусіла В. Кебіча прыняць адзіна правільнае рашэнне. Адказваючы на пытанне аб гэтым, ён заявіў, што ўчора даў указанне вызваліць усіх кіраўнікоў-«бізнесменаў» ад займаемых імі дзяржаўных пасад.

#### ПРА БЕЛАРУСКІХ ПРЫЗЫЎНІКОЎ І МІНСКАЕ ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА

Падобна на тое, што дэкларацыі аб недапушчальнасці прызыву беларускіх хлопцаў на службу ў аддаленыя куткі былой савецкай імперыі набываюць, нарэшце, канкрэтны змест. Як выявілася, учора Прэм'ер прыняў адказных кіраўнікоў саюзнага Міністэрства абароны, якім заявіў, што Савет Міністраў рэспублікі прыме адпаведнае рашэнне яшчэ да падпісання саюзнага дагавора (калі такое ўвогуле адбудзецца). За межамі рэспублікі будуць служыць толькі тыя прызыўнікі, якія самі гэтага пажадаюць.

Па словах Прэм'ера, маскоўскія генералы прапаноўвалі перапрафіляваць Мінскае ваенна-палітычнае вучылішча ў каманднае, якое б рыхтавала афіцэраў для Узброеных Сіл будучага саюза. Старшыня ўрада, аднак, заявіў, што ўжо прынята рашэнне аб перадачы комплекса будынкаў былога вучылішча ўніверсітэту і перагледзець гэта рашэнне ўрад не збіраецца.

Увечары разгарнуліся спрэчкі па дакладу В. Кебіча. Як і меркавалася, Прэм'еру давялося выслухаць нямала папрокаў і нараканняў, але ў галоўным дэпутаты былі аднадушныя: мяняць урад цяпер не пара.

С. Шушкевіч тым часам накіраваўся ў Маскву. Ці будзе падпісана пагадненне аб эканамічным супольніцтве ў тым выглядзе, як меркавалася? Сённяшні дзень, па ўсім відаць, адкажа на гэта пытанне.

**В. ЖДАНКО,**
**парламенцкі аглядальнік «Звязды».**



**Немалую ролю ў павышэнні ўраджайнасці прадуктаў земляробства ў рэспубліцы адыгрываюць аграхімікі. Іх сціплую, непрыкметную працу паважаюць і спецыялісты, і паляводы гаспадарак. Менавіта імі дасягненні сучаснай навукі аб зямлі ўкараняюцца ў паўсядзённы вытворчы вопыт.**

**НА ЗДЫМКУ: працуюць спецыялісты Стаўбцоўскай раённай аграхімічнай лабараторыі.**

**Фота А. САЛЯРКІНА.**

## Камандзіроўка... на мітынг

Факт з нядаўняга мінулага, калі мы хадзілі на дэманстрацыі, каб паказаць сваю еднасць і г.д.: многія з дэманстрантаў за выказванне гэтай еднасці патрабавалі ад адміністрацыі сваіх прадпрыемстваў «пяцёрку» альбо «чырвонец». Распісаўся ў ведамасці — і пайшоў крычаць «Ура!»

Цяжка сказаць, наколькі шчырыя былі ў сваіх пачуццях тыя, хто ў аўторак па закліку прафсаюзаў мітынгавалі на плошчы ў Мінску (хоць гэта мерапрыемства сціпла названа сустрэчай з народнымі дэпутатамі Беларусі, тым не менш яго ўсё ж варта кваліфікаваць як мітынг). Здаецца, людзі не вельмі горача выказвалі пачуцці, хоць яны, можа, і мелі рацыю звярнуць на сябе ўвагу, дакладней — на пагаршэнне свайго жыццёвага ўзроўню. Але не будзем тут вызначаць гэта, як, дарэчы, і ступень аднадушнасці і эмацыянальнасці плошчы. Нашай з табой, чытач, увагі больш заслугоўвае іншы факт. Як аказалася, нямала хто прыбыў на мітынг па... камандзіровачных пасведчаннях (вядома, гэта датычыць іншагародніх). Вось такі, значыць, «парыў душы».

*Рэпліка*

Адзначаны факт быў «агучаны» на мітынгу, а пасля ўжо на маё пытанне, ці так гэта, і адзін, і другі, і трэці — з розных гарадоў — прызналіся: «Так!»

Звязаўся назаўтра з намеснікам старшыні прафкома рагачоўскага «Дыяпраектара», адкуль прыехалі 25 чалавек, якім нават і аўтобус прадаставілі... Намеснік моцна здзівілася майму, відаць, вельмі недарэчнаму пытанню наконт камандзіровачных пасведчанняў: вядома, выпісвалі. І ў Мінску адзначалі. А як жа інакш? Трэба абавязкова аплаціць людзям гэты дзень. Усе мы за грошы жывём, сёння бохан хлеба каштуе ў магазіне рубель дваццаць...

Рубель дваццаць за бохан — гэта, вядома, аргумент. Але ўсё роўна неяк змрочна на душы. Падумалася: а мітынгаў жа ўсё больш і больш. А розных грамадскіх арганізацый — таксама, і кожная пры гэтым імкнецца ўзяць колькасцю на плошчы. А калі ўсе без выключэння пачнуць бегаць на яе? Гэткімі буйнамасавымі забегамі...

І, між іншым, справа тут нават не проста ў камандзіровачных, а менавіта ў самім прыцягненні плошчы. Вось толькі б не застацца з-за гэтага «хобі» і без хлеба (няхай нават па рубель дваццаць), і без штаноў. Хіба толькі адна тут карысць: лягчэй бегаць...

А ўвогуле, каму што падабаецца! Каму — «Ура!», каму —«Далоў!» Плюралізм жа. Толькі вось дамовіцца б, каб у такім выпадку кожны звяргаў ці ўхваляў выключна за свой кошт. Каго б ён ні прадстаўляў — афіцыяльных ці незалежных, правых ці левых. Не будзем забываць: вытворчасць жа ў нас пакуль што так званая агульнанародная, а не прыватная.

**І. БАРАНОЎСКІ,**
**кар. «Звязды».**

## «Аб'яднацца дзеля справы»

**У друку ўжо паведамлялася, што ў суботу ў Мінску адбудзецца нарада руху «Дэмакратычныя рэформы». Натуральная цікавасць чытачоў да яе, бо сярод ініцыятараў стварэння руху —вядомыя сваёй акрэсленай і актыўнай пазіцыяй народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь. Рэдакцыя «Звязды» папрасіла расказаць аб маючай адбыцца падзеі аднаго з іх—Аляксандра ЛУКАШЭНКУ.**

— Напомню, што задоўга да жнівеньскага перавароту ў парламенце рэспублікі была створана фракцыя «Камуністы за дэмакратыю» А калі 33 чалавекі, якія складалі яе, выйшлі з КПСС, яна атрымала назву «Дэмакратычныя рэформы» і адкрыта выказалася за стварэнне партыі. 19 кастрычніка мяркуем утварыць яе аргкамітэт.

*Напярэдадні падзей*

На гэтую нараду запрашаюцца ўсе жадаючыя. Вядома, было б добра, калі б у зале сабраліся аднадумцы, гэта спрыяла б плённай рабоце, але калі будуць думкі не ва унісон думцы большасці, то нічога страшнага ў гэтым таксама не бачу. Будзем шукаць ісціну ў спрэчках, дыскусіях.

Мы разумеем, што зараз, калі людзі стаміліся ад палітыкі, стварыць новую партыю няпроста. Але мы ведаем, што аднадумцы ў нас ёсць, а калі так, то мы павінны быць разам. У рэспубліцы назіраецца дысбаланс палітычных сіл, і гэта вельмі небяспечна. Вакууму быць не павінна. Мы павінны ўраўнаважыць палітычныя сілы.

Час крытыкі ўжо мінуў. Мінуў нават час вылучэння ідэй. Сёння трэба ідэю не толькі вылучаць, але і рэалізоўваць. Калі я пра гэта сказаў на арганізаваным прафсаюзамі мітынгу, то людзі адрэагавалі авацыяй. Гэта пра многае гаворыць. Людзі патрабуюць ад нас спыніць бойку за ўладу і заняцца канкрэтнай справай.

Мы перакананы, што Беларусі патрэбен урад нацыянальнага адзінства, нацыянальнай згоды, каб у ім былі прадстаўлены ўсе палітычныя плыні і групы. Але гэта не азначае, што цяперашні ўрад трэба тэрмінова «скідваць». Гэта нерэальна і вельмі небяспечна, бо прыйдуць людзі новыя, нявопытныя і зусім заваляць справу. Трэба ўваходзіць ва ўрад— Кебіч, дарэчы, нікому туды дзверы не зачыняе,—і працаваць там.

Гэтак жа і з эканамічнай рэформай. Нам патрэбна не рэвалюцыя ў эканоміцы, а паслядоўныя, прадуманыя рэформы. І трэцяе—нам трэба наводзіць парадак у грамадстве і ўмацоўваць тэхналагічную дысцыпліну. Гэта не азначае, што трэба паставіць міліцыянера ля кожнага станка. Гэта азначае, што ўсе нашы планы, рэформы і праграмы трэба «зазямліць» на канкрэтнага выканаўцу. Калі мы далі чалавеку права выбару ўласнасці, з якой ён можа працаваць, то мы маем права патрабаваць ад яго максімальнай аддачы.

Сацыяльная база нашай партыі мне бачыцца самай шырокай—рабочыя, сяляне, творчая, навуковая інтэлігенцыя. Мы нікому не будзем закрываць дарогу ў партыю. Да нас прыйдуць—я вельмі спадзяюся на гэта—людзі зямныя, практыкі, якія вельмі зацікаўлены ў вывадзе рэспублікі з крызісу.

## Аб чым гавораць на закрытым пасяджэнні

**Як быць, якую пазіцыю выбраць у адказ на раптоўную прапанову Б. Ельцына ўвесці на ўсе тавары і паслугі свабодныя цэны і пачаць падрыхтоўку да выпуску ўласных грошай, на чым стаяць? На гэтыя няпростыя пытанні і шукалі адказ парламентарыі на закрытым пасяджэнні сесіі. Ну, а які вынік цяжкага абмену думкамі?**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ:**

— Пакуль неабходна праявіць пэўную стрыманасць і не даваць волю эмоцыям. Вы помніце, калі летам было аб'яўлена аб падпісанні Саюзнага Дагавора, адбыўся путч, які перакрэсліў яго. Нельга дапусціць, каб нешта падобнае здарылася і цяпер.

— З чым вы адпраўляецеся ў Маскву?

— Я еду са сваімі канстытуцыйнымі правамі. З намерамі падпісаць эканамічнае пагадненне і лічу, што Беларусі яно вельмі неабходна. Па-мойму, вынікі абмеркавання паказалі, што Вярхоўны Савет падзяляе мой пункт гледжання, хоць мы і не галасавалі: падпісваць або не, паўтараю, — маё канстытуцыйнае права.

**Аляксандр САСНОЎ:**

— Нават ранейшы дагавор можна падпісваць. Адзінае, што потым трэба будзе зрабіць — ратыфікаваць яго. Адначасова, нягледзячы на дагавор, трэба нарэшце паклапаціцца аб сваіх інтарэсах. Вырашаць з цэнамі, з уласнай валютай і г. д., каб пастаянна не аказвацца ў хвасце падзей, калі суседзі ставяць нас амаль ці не на калені...

**Вячаслаў КЕБІЧ:**

— У гэтым дакуменце, і, я лічу, яго, безумоўна, трэба падпісваць, няма ніводнага радка, які б ушчамляў інтарэсы рэспублікі. Больш таго, ён пакуль носіць дэкларатыўны характар. У яго няма прававога калідора, няма галоўнага — што будзе зроблена ў адносінах да рэспублікі, якая не выканае свае абавязацельствы перад другім бокам. Дакумент — дэкларацыя аб узаемаадносінах. А тыя 17 дадаткаў, якія павінны дапаўняць яго, убяруць у сябе ўсю гаму эканамічных узаемаадносін паміж рэспублікамі.

**Уладзімір ЗАБЛОЦКІ:**

— Эканамічнае пагадненне змяшчае цэлы рад супярэчнасцей. Дазваляецца ўводзіць уласныя грошы кожнай рэспубліцы і ў той жа час абвяшчаецца агульная эканамічная прастора — гэта нонсенс, што і падкрэслілі апошнія рашэнні Расіі. А замест 17 дапаўненняў, сутнасць некаторых з іх я ведаю, вяртаюць нас да унітарнай дзяржавы. З іх дапамогай фарміруецца унітарны цэнтр.

— Кажуць, на закрытым пасяджэнні Вы сказалі, што перад падпісаннем дагавора мы маглі б і «патаргавацца». Што вы мелі на ўвазе?

— Нас спрабуюць шантажыраваць: маўляў, калі мы будзем вельмі самастойнымі — з намі пачнуць гандляваць па сусветных цэнах, прыменяць жорсткі эканамічны націск. У Маскве неабходна прадэманстраваць сваю волю і прапанаваць суседзям гандаль, які б не асноўваўся на палітычных амбіцыях.

Абмеркаванне даклада ўрада, якое адбылося пасля перапынку, натуральна, пайшло некалькі ў іншым напрамку, чым меркавалася раней.

Пакуль дэпутатам раздадзены праект Пастановы «Аб эканамічным становішчы ў рэспубліцы». Спрэчкі працягваюцца.

**У. ГЛОД,**
**Я. ГАРЭЛІК,**
**А. КРЫЖАНОЎСКІ,**
**парламенцкія карэспандэнты БЕЛТА.**

## *В. Ф. КЕБІЧ:*

# «Ні пра які голад і гаворкі быць не можа»

## Даклад Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб эканамічным становішчы ў рэспубліцы

Паважаны Старшыня!

Шаноўныя народныя дэпутаты!

Усе вы былі сведкамі таго, як урад неаднаразова звяртаўся ў Вярхоўны Савет, каб праінфармаваць парламент пра важнейшыя напрамкі сваёй дзейнасці, сацыяльна-эканамічныя абставіны ў рэспубліцы, праблемы і пра тыя меры, што ў сувязі з гэтым намі прымаюцца. Сумесны вопыт заўсёды дапамагаў знайсці аптымальны варыянт у вырашэнні найскладанейшых пытанняў нашай дзяржаўнасці.

Гэта датычыць перш за ўсё праграмы пераходу да рынку, стабілізацыі эканомікі, сацыяльнай абароны насельніцтва ў сувязі з рэформай рознічных цэн, аграпрамысловага комплексу.

Сюды ж можна аднесці серыю рашэнняў па пытаннях адукацыі, культуры, аховы здароўя і становішча тых, хто працуе ў гэтых галінах.

Зазначым, што толькі ў Беларусі ў значна большых памерах, чым у іншых рэгіёнах Саюза, былі павышаны заработная плата ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, пенсіі, стыпендыі і тым самым амаль не закрануты жыццёвы ўзровень большасці людзей.

Сёння мы маем сярэднямесячны даход на аднаго працаўніка 434 рублі. Гэта вышэй за даход іншых рэспублік, акрамя Прыбалтыкі. Але ж там і рознічныя цэны значна вышэйшыя, чым у нас.

Неабходнасць выпрацоўкі ўзгодненых поглядаў і ацэнак патрэбна заўсёды. Але сёння, ва ўмовах той палітычнай і эканамічнай сітуацыі, якая склалася, гэта асабліва важна. Цяперашняя абстаноўка, я сказаў бы, гэта згустак рознага роду складанасцей.

З аднаго боку — адбыліся сапраўды рэвалюцыйныя змены, гістарычную значнасць якіх пераацаніць проста нельга. Наш парламент, прыняўшы дзяржаўныя акты аб незалежнасці рэспублікі, вызначыў лёс беларускага народа на многія гады наперад.

Адкрыты шлях да сапраўднага нацыянальнага адраджэння, для такой перабудовы нашага грамадства, якая забяспечвала б усім людзям вартае іх жыццё.

Але з другога боку, той рэвалюцыйны рывок, які зроблены намі ў галіне палітычнай, у станаўленні нашай дзяржаўнасці, намнога апярэдзіў сацыяльна-эканамічныя пераўтварэнні.

Тут у нас вялікая несуаднеснасць. Народная гаспадарка рэспублікі сёння аказалася ў становішчы, калі ў многім страчаны дынамізм і толькі цаной неймаверных намаганняў удаецца прытармазіць спад вытворчасці, жабрацкае становішча спажывецкага рынку і наогул зніжэнне ўзроўню жыцця чалавека.

Поўны распад усіх структур былога Саюза разняволіў наша грамадства, але разам з тым нарадзіў хаос у эканоміцы.

Да таго ж у многіх рэгіёнах замест таго, каб узяцца за актыўную перабудову эканамічных адносін, усю энергію выліваюць у палітычны запал, міжусобіцы, зводзяць рахункі за старыя крыўды. Таго і чакай, што асобныя ачагі грамадзянскай вайны перакінуцца на цэлыя народы.

Ці трэба казаць, наколькі гэта страшна і якімі цяжкімі вынікамі пагражае. Мала таго што ў вір нацыянальных канфліктаў уцягваюцца самыя працаздольныя сілы, дык пакутуюць ад гэтага і тыя, хто знаходзіцца за многія тысячы кіламетраў ад месцаў разладу, бо маюць пэўныя эканамічныя сувязі.

Так ужо склалася, што ў былым Саюзе мы аказаліся эканамічна стрыножанымі. Эканоміка Беларусі ўжо сёння церпіць вялікія страты ад таго, што не працуюць цэлыя прамысловыя раёны, з якіх мы атрымлівалі велізарныя пастаўкі.

Увесь гэты хаос, гэты жудасны непарадак, натуральна, хвалюе і нашых людзей. Яны занепакоены: ці зможам мы абараніць гаспадарку сваёй рэспублікі? Што чакае нас зімой? Ці пагражае Беларусі голад? Як складзецца праца прамысловых прадпрыемстваў? Якое фінансавае становішча?

Таму, мяркуючы ва ўрадзе, як нам найлепш давесці да Вярхоўнага Савета свае клопаты, свае задумы, мы прыйшлі да высновы, што пра ўсё трэба сказаць прама і даць на пытанні ясныя адказы.

Але перш за ўсё, напэўна, будзе правільным асэнсаваць тыя працэсы, што адбываюцца зараз у нашай эканоміцы.

Вядома, што народная гаспадарка рэспублікі ў вялікай залежнасці ад знешніх паставак паліўна-энергетычных і сыравінных рэсурсаў, мае надзвычай шырокі дыяпазон кааперацыйных сувязей.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# «Ні пра які голад і гаворкі быць не можа»

## Даклад Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб эканамічным становішчы ў рэспубліцы

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Аднак тая акалічнасць, што мы змаглі заключыць эканамічныя пагадненні і дагаворы з многімі рэгіёнамі і непасрэднымі пастаўшчыкамі, дазволіла аслабіць націск разбуральных працэсаў.

Прынамсі, за трэці квартал у нас не было зніжэння прамысловай вытворчасці, а за мінулы перыяд года яно было намнога меншым, чым, скажам, у Расіі або на Украіне, не гаворачы пра Арменію, Грузію ці Малдову.

Валавая прадукцыя нашай сельскай гаспадаркі ацэньваецца за год са зніжэннем на 4 працэнты.

За 9 месяцаў дасягнуты пэўны прырост па нехарчовых таварах, асабліва па выпуску складанай бытавой тэхнікі.

Як бачыце, агульны малюнак не з лепшых, але на фоне таго, што адбываецца навокал, не так ужо ўсё і змрочна.

Мы рабілі і будзем рабіць усё, каб змякчыць той цяжар, які на нас цісне і ўзнікае практычна кожны дзень.

Але мы ніколі не будзем у стане па-сапраўднаму вырашаць праблемы эканомікі рэспублікі як самастойнай дзяржавы, калі не будзем весці шырокамаштабныя работы па стратэгічных напрамках развіцця. З-пад сённяшняга цяжару мы абавязаны бачыць заўтрашні дзень.

І тут галоўнае месца аб'ектыўна адводзіцца глыбокай структурнай перабудове ўсёй нашай народнай гаспадаркі.

Сутнасць гэтай перабудовы ў тым, каб максімальна пераарыентаваць прамысловасць на непасрэдныя патрэбы рэспублікі, паступова аслабіць жорсткую залежнасць ад рэсурсаў, што ўвозяцца, стварыць надзейны экспартны патэнцыял.

Усё гэта закладзена ў вялікі дакумент у выглядзе асноўных напрамкаў развіцця машынабудаўнічага і хімічнага комплексаў, уключаючы канверсію абаронных прадпрыемстваў, праца над якім амаль закончана. Адначасова ідзе практычная рэалізацыя намечанага.

На выпуск вострадэфіцытнай прадукцыі пераходзяць заводы «Магілёўсельмаш» і «Светлагорсккарммаш», хойніцкі завод «Салют». Ідзе асваенне новых відаў вырабаў на Мінскім трактарным заводзе, у аб'яднаннях «Гомсельмаш» і «Інтэграл».

Сумесна са спецыялістамі ФРГ распрацавана тэхнічнае заданне па арганізацыі ў рэспубліцы вытворчасці легкавых аўтамабіляў, мікрааўтобусаў і мікрагрузавікоў на вольных плошчах, што ёсць на нашых прадпрыемствах.

Імкнёмся прыцягнуць да ўдзелу ў рэалізацыі гэтага праекта такія вядомыя фірмы, як «Опель», «Фольксваген», «Вольва», «Мерседэс-Бенц», «Форд». Усім гэтым фірмам накіраваны нашы прапановы. Зараз яны разглядаюцца.

Натуральна, што структурная перабудова эканомікі не адбудзецца сама па сабе. Для гэтага спатрэбяцца глыбокія змены ў фінансава-крэдытнай, падатковай, цэнавай палітыцы і пэўны час, каб спалучыліся розныя механізмы функцыяніравання народнай гаспадаркі.

Нягледзячы на тое, што будзе набіраць абароты рынак, не абысціся і без магутнай дзяржаўнай падтрымкі, каб гэтыя структурныя змены адбываліся як мага хутчэй і эфектыўней. Гэта робіцца ў выглядзе аблягчэння цяжару падаткаў і прадастаўлення іншай фінансавай зацікаўленасці. Тут намі распрацавана шмат мер.

Да нядаўняга часу ўрад быў пазбаўлены магчымасці прама ўздзейнічаць на вялікую частку нашай прамысловасці, якая знаходзілася ў падпарадкаванні саюзных міністэрстваў. Цяпер становішча пачало мяняцца ў звязку з рашэннямі Вярхоўнага Савета аб пераходзе пад юрысдыкцыю рэспублікі ўсіх прадпрыемстваў на яе тэрыторыі.

І адразу ж на ўрад звалілася вялікае мноства новых праблем. Бо на гэтых жа прадпрыемствах працуе пятая частка ўсіх занятых у народнай гаспадарцы рэспублікі— 1 мільён 120 тысяч чалавек, і даюць яны болей за 40 працэнтаў агульнага аб'ёму прамысловай вытворчасці.

Перш за ўсё трэба было ўзяць на сябе значную частку клопатаў па матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні і прыкласці шмат намаганняў, каб максімальна захаваць раней існуючыя кааперавыя пастаўкі.

Шэрагу прадпрыемстваў, з нагоды іх цяжкага фінансавага становішча, — такім, як Мінскае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі, светлагорскае «Хімвалакно», барысаўскае «Экран», Беларускі металургічны завод, — давялося знізіць плацяжы ў бюджэт з прыбытку.

Мы павысілі аптовыя цэны на гатовую прадукцыю, каб кампенсаваць падаражанне завезеных матэрыялаў. На беларускіх заводах у нас зараз размяшчаецца вытворчасць многіх камплектуючых вырабаў, якія раней дзе толькі не выпускаліся.

У сувязі з канцэнтрацыяй непасрэдна пад кіраўніцтвам рэспублікі ўсяго прамысловага патэнцыялу спатрэбіцца па-новаму арганізаваць працу навукова-даследчых і канструктарскіх арганізацый, каб узмацніць іх уплыў на тэхнічны прагрэс і яго выніковасць.

Дагэтуль фінансаванне работ, што імі вырашталіся, адбывалася ў асноўным за кошт бюджэту або цэнтралізаваных фондаў.

З пераходам ва ўласнасць рэспублікі вышэй пазначаных арганізацый наша задача — не раскідаць кадры, не згубіць дасягнутае, наадварот, ствараць умовы для эфектыўнай працы спецыялістаў. Вельмі важна, каб іх распрацоўкі спрыялі пераходу ў найкарацейшы тэрмін на выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі, забяспечвалі б канверсію прадпрыемстваў.

Таму аб'ектыўна ўзнікла неабходнасць у стварэнні Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхніцы. Зараз урад гэта пытанне разглядае.

Каб аператыўна вырашаць шматлікія пытанні, звязаныя з былымі саюзнымі прадпрыемствамі, урад мае ў сваім апараце групу спецыялістаў, якія пастаянна трымаюць кантакт з аб'яднаннямі і заводамі.

Ды і кіраўнікі вялікага шэрагу прадпрыемстваў цяпер зусім па-іншаму падыходзяць і да ацэнкі сваіх праблем, і да вызначэння шляхоў іх вырашэння, зыходзячы з таго, што абапірацца ў гэтых справах яны могуць толькі на рэспубліку, на сваю прадпрымальнасць, настойлівасць і кемлівасць.

Усё гэта разам узятае, безумоўна, дае свой эфект.

І наогул мы імкнёмся да таго, каб адносіны паміж дзяржаўнымі органамі і прадпрыемствамі ўсё больш грунтаваліся на эканамічным інтарэсе, каб не было дыктату ні з боку органаў дзяржаўнага кіравання, ні з боку прадпрыемстваў.

Тым больш што сёння любое прадпрыемства, разлічыўшыся з дзяржавай, як таго патрабуе закон, усе свае ўнутраныя праблемы можа вырашаць само.

Спатрэбілася, напрыклад, вырашаць пытанні тарыфаў — ніхто не забараняе. Ёсць магчымасць павышаць зарплату або рабіць якія-небудзь іншыя даплаты — калі ласка, на здароўе.

Але, падкрэсліваю, усё гэта можна рабіць толькі пасля таго, як разлічышся з бюджэтам. Без гэтага ні адна дзяржава проста не можа існаваць.

Структурная перабудова нам патрэбна не толькі ў прамысловасці. Яна неабходна і ў сельскай гаспадарцы. Галоўнае тут — праблема ўстойлівага харчовага забеспячэння насельніцтва рэспублікі.

І тут, зноў жа, трэба хутчэй аслабіць нашу залежнасць ад завозу. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе перш за ўсё збожжа, цукар і алей.

Па ўсіх гэтых пазіцыях мы маем канкрэтны план дзеянняў. Згодна з ім ужо з бягучага года пашыраюцца плошчы пад збожжавымі. Гэтак яшчэ гадоў дзесяць назад у нас было пад збожжавымі 3 млн. гектараў, а сёлета на паўмільёна менш. Калі браць у разлік нашу ўраджайнасць, гэта значыць, што мы недаатрымліваем каля мільёна тон.

Як у гэтым годзе са збожжам? Сабрана яго крыху больш за шэсць мільёнаў тон, на 800 тысяч тон менш, чым летась. Безумоўна, гэта ўскладніла становішча, тым больш што з завозам збожжа, які ў нас штогод складаў тры з паловай — чатыры мільёны тон, таксама складваюцца абставіны не лепшым чынам.

У выніку — такое становішча. Жыта на харчаванне нам хопіць да наступнага ўраджаю, а пшаніцы — з наяўных на сёння запасаў — толькі да 1 студзеня будучага года. Таму неабходна завезці на гэтыя мэты сама меней паўтара мільёна тон.

Але патрэбнасці ў завозным збожжы гэтым не абмяжоўваюцца. Трэба знайсці яшчэ хаця б мільён тон фуражнага зерня. Зараз падпісалі міжрэспубліканскае пагадненне па забеспячэнню харчовымі рэсурсамі, дзе прадугледжана завезці ў рэспубліку 4 мільёны тон збожжа.

Але ж самі разумееце, што сёння гэта яшчэ не цвёрдая гарантыя. Таму ўрад рэспублікі вядзе работу па пастаўках збожжа з Казахстана, Польшчы, Венгрыі, Чэха-Славакіі. У прыватнасці, у Польшчы ўжо закупілі 110 тысяч тон. Дасягнута дамоўленасць аб абмене з Украінай трохсот тысяч тон жыта на 280 тысяч тон пшаніцы і 15 тысяч тон круп.

Мы будзем рабіць так: мяса і іншую жывёлагадоўчую прадукцыю за межы рэспублікі пастаўляць толькі ў абмен на збожжа і кармавыя дабаўкі.

Ну, а наогул, як бы ні было складана, урад зробіць усё дзеля таго, каб збожжам рэспубліка была забяспечана.

Ёсць рэальная магчымасць аслабіць залежнасць і па завозу цукру. У свой час мы яўна недаацанілі ўласныя магчымасці і па пашырэнню пасеваў цукровых буракоў, і па нарошчванню магутнасцей па іх перапрацоўцы. Гэта цяпер выпраўляецца.

Што датычыць забеспячэння цукрам, то ў нас былі вялікія цяжкасці з-за недапаставак з Украіны і Расіі, але ўдалося часткова зняць іх дзякуючы прамому бартэрнаму абмену з Кубай. Продаж цукру выраўноўваецца.

Але нам трэба ўсё ж пагля-дзець і на спажыванне. Сёння яно недзе ў паўтара раза вышэй, чым рэкамендуецца па норме. Акрамя шкоды здароўю, нічога гэта не прыносіць.

Намнога цяжэй з алеем. Свайго мы не вырабляем, а традыцыйныя пастаўшчыкі сёння ад нас адварочваюцца. Прыціснутыя нястачаю, ідзём да іх на паклон і што-небудзь выбіваем. Але гэтага мала. Шукаем магчымасці закупкі алею за мяжой — у Турцыі, Грэцыі, Марока. Паступова будзем ствараць і сваю вытворчасць.

Па забеспячэнню мясам і малаком у нас ніякіх сумненняў няма. Нягледзячы на тое, што вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі скарачаецца, ні ў гэтым, ні ў будучым годзе на змяншэнне рыначных фондаў не пойдзем. Недабор прадукцыі адаб'ецца толькі на аб'ёмах вывазу.

Урад упэўнены ў тым, што ў канчатковым выніку ў нас не будзе зніжэння спажывання асноўных прадуктаў харчавання. Гэта значыць, у разліку на год: 75 кілаграмаў мяса і мясапрадуктаў, 425 кілаграмаў малочных прадуктаў, 330 яек, 126 кілаграмаў хлеба і хлебапрадуктаў, 170 кілаграмаў бульбы і 75—80 кілаграмаў гародніны.

Такім чынам, ні пра які голад і гаворкі быць не можа.

Няма сёння рэальнай пагрозы і таго, што насельніцтва надыходзячай зімой будзе жыць у холадзе.

Каб гэтага не здарылася, у нас ужо ёсць пэўныя запасы паліва, а таксама дагаворанасці па электраэнергіі. Хаця, безумоўна, і тут шмат праблем.

Як, дарэчы, і ва ўсім матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні. Заключаныя дагаворы пастаянна парушаюцца, час ад часу даводзіцца звяртацца да бартэрнага абмену і адрываць ад сябе частку тых тавараў, якія патрэбны самім.

Хіба можа ў такой сітуацыі ўрад абысціся без таго, каб не ўстанаўліваць дзяржзаказ, які дазваляе хоць як-небудзь кіраваць у інтарэсах рэспублікі пастаўкамі нашай гатовай прадукцыі? Да таго ж і суседзі нашы, я маю на ўвазе Прыбалтыку, пакуль што без дзяржзаказу не абыходзяцца.

Мы прынялі праграму пераходу да рынку, і гэта для нас з'яўляецца генеральным накірункам. Але ўсе рыначныя пераўтварэнні трэба весці з улікам рэальнасцей, абдумана, узважана, без падштурхоўвання.

У апошні час больш актыўна пайшоў працэс стварэння кааператываў, малых прадпрыемстваў і іншых форм малога бізнесу.

Нядаўна ўрадам зніжаны стаўкі падатку на прыбытак для шэрагу кааператываў. Устаноўлены льготы кааператывам, што выпускаюць спажывецкія тавары і аказваюць паслугі, а таксама ажыццяўляюць будаўніцтва і рамонт аб'ектаў аграпрамысловага комплексу і сацыяльнай сферы на сяле.

Цяпер кааператывы, зарэгістраваныя на тэрыторыі рэспублікі, набываюць матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы па тых жа аптовых цэнах, што і іншыя спажыўцы. Гэта значыць, без прымянення павышаных каэфіцыентаў. Ствараецца рэспубліканскі фонд фінансавай падтрымкі для малых прадпрыемстваў.

Урад будзе ўсё больш актыўна падтрымліваць прадпрымальніцтва і асабліва дробнае, бо мы надта зацікаўлены ў тым, каб у нас хутчэй фарміравалася такая структура вытворчасці, якая б працавала на задавальненне патрэб людзей і грамадства.

Асновай для рынку, як вядома, з'яўляюцца разнастайнасць форм уласнасці і канкурэнцыя таваравытворцаў. Таму на першы план тут вылучаюцца пытанні раздзяржаўлення і прыватызацыі.

Гэта вельмі тонкі інструмент, і з ім трэба абыходзіцца асцярожна. Паспешная, да таго ж без прававой асновы прыватызацыя непазбежна прывядзе да выбуху і ў эканоміцы, і ў палітычным жыцці грамадства.

Таму ўрад актыўна вядзе падрыхтоўку неабходнай прававой базы. І мы ўжо адчулі, чым можа абярнуцца яе адсутнасць.

Не так даўно былыя саюзныя структуры без узгаднення з урадам рэспублікі хуценька стварылі акцыянерныя суполкі і сталі іх удзельнікамі. Па меншай меры палавіна акцый гэтых суполак засталася б у Маскве. У гэтую справу было ўцягнута 10 буйных прадпрыемстваў. Безумоўна, нам давялося ўмяшацца і ўсё паставіць на месца.

Але, нягледзячы ні на што, прыватызацыю трэба праводзіць. Таму мы зацвердзілі часовае палажэнне аб яе правядзенні. Праз Камітэт па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і мясцовыя Саветы пачалася прыватызацыя жылля. У гэтым годзе прададзена і перададзена ва ўласнасць без выплаты восем тысяч кватэр.

Гэта пакуль мізэрная колькасць у дзяржаўным жылым фондзе. Трэба шчыра прызнаць, што мы тут маглі б ісці хутчэй і больш садзейнічаць гэтаму. Зараз справа папраўляецца.

А вось як развіваюцца арэндныя адносіны. На арэнду перайшлі ўжо 78 прамысловых прадпрыемстваў з гадавым аб'ёмам вытворчасці больш за шэсць мільярдаў рублёў. Арэнднымі арганізацыямі выконваецца 9 працэнтаў усіх будаўніча-мантажных работ. Яны забяспечваюць чвэрць рознічнага тавараабароту, аказваюць трэцюю частку бытавых паслуг і выконваюць на транспарце каля палавіны перавозак.

З арэндай некалькі прасцей. Па-першае, таму што справа гэта больш звыклая і, па-другое, у арандатара ёсць нейкая падстрахоўка ў выглядзе сувязей з арэндадаўцам. Гэтыя сувязі ў той або іншай меры застаюцца ў выпадках аказання дапамогі матэрыяламі, абсталяваннем, тэхнічным абслугоўваннем. Арэндныя адносіны развіваюцца больш актыўна, відаць, і таму, што, калі арандатара гэта не задавальняе, дагавор арэнды заўсёды можа быць спынены.

А вось калі тая ж майстэрня або цырульня будуць узяты ў прыватную ўласнасць, то іх уладальнік рызыкуе застацца сам-насам са сваімі праблемамі. Тое ж самае і з фермерствам.

І тут вельмі была б дарэчы дапамога мясцовых Саветаў, якія павінны падтрымаць прадпрымальніка. Але, як паказалі нашы нядаўнія праверкі ў Гродзенскай, Брэсцкай, іншых абласцях, у выканаўчай улады ўсё яшчэ поўная абыякавасць да новага, а то і перашкода яму.

Так, напрыклад, у Брэсцкай вобласці многа жадаючых стаць фермерамі, стварыць сялянскія гаспадаркі. Прычым гэта людзі вопытныя, добра ведаюць, як абыходзіцца з зямлёй. Але ім або прапаноўваюць няўдобіцы, або выдзяляюць лапікі, на якіх сапраўдны гаспадар і не разгорнецца. Сярэдні памер сялянскіх гаспадарак складае тут толькі 5,8 гектара сельгасугоддзяў, у той час як у адпаведнасці з законам грамадзяне могуць атрымаць на гэтыя мэты да пяцідзесяці гектараў.

Мы лічым, што цяпер, з прыняццем Вярхоўным Саветам пастановы аб прызнанні права прыватнай уласнасці на зямлю, пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы пойдуць намнога хутчэй. Трэба даць магчымасць працаваць на зямлі ўсім, хто ўмее і жадае.

А каб прыцягнуць у сельскагаспадарчую вытворчасць гараджан, мне здаецца, трэба зрабіць такі крок. Даць ім магчымасць узяць у сваё карыстанне некалькі гектараў зямлі, пры гэтым не пазбаўляючы людзей гарадской прапіскі. Тым больш, што ўжо сёння ў гарадах пачынае выслабаняцца значная частка працоўных рэсурсаў, а прапіска ж з цягам часу згубіць усялякі сэнс.

Праз гады 3—4, калі мы пераканаемся, што гарадскі чалавек стаў сапраўдным гаспадаром, магчыма перадача яму зямлі ва ўласнасць. Добра было б, каб на гэтай зямлі абсталёўваліся людзі, якія выйшлі з гэтых мясцін.

Калі з боку парламента на ўсё гэтае будзе згода, мы маглі б адразу ж прыняць адпаведную пастанову і пачаць дзейнічаць.

Цяпер пра фінансавае становішча рэспублікі. Перш за ўсё пра бюджэт.

Па нашай ацэнцы, мы не пяройдзем за той бюджэтны дэфіцыт, які зацверджаны Вярхоўным Саветам. Перавышэнне выдаткаў над даходамі вызначаецца да канца года ў суме 4,3 мільярда рублёў.

Складаным застаецца пытанне пакрыцця гэтага дэфіцыту. Цяпер атрымана згода Дзяржбанка былога Саюза аб выдачы рэспубліцы кароткатэрміновай пазыкі ў памеры трох мільярдаў рублёў. У астатняй частцы бюджэтны дэфіцыт можа быць пакрыты за кошт павелічэння ўнутранага доўгу.

Безумоўна, пакрываючы бягучы дэфіцыт кароткатэрміновай пазыкай, мы рэзка абцяжарым будучы год, таму што вымушаны будзем адцягваць на пагашэнне фінансавыя рэсурсы, якія цяжка складваюцца і без таго. Вось чаму працягваем працаваць над тым, каб нам была прадастаўлена доўгатэрміновая пазыка.

Адначасова з прыцягненнем ў бюджэт даходаў урад удзяляе ўвагу стварэнню нармальных фінансавых умоў для функцыяніравання прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Гэта патрэбна і для саміх прадпрыемстваў, і не меней важна для папаўнення бюджэту.

Стварaліся льготы па падаткаабкладанню. Прычым у першую чаргу для падтрымкі тых прадпрыемстваў, якія выпускаюць прадукцыю для патрэб рэспублікі.

Разам з прадастаўленнем падатковых ільгот урадам прымаліся і іншыя меры фінансавай падтрымкі. За кошт прадугледжанага ў рэспубліканскім бюджэце фонду стабілізацыі выдзелена на падтрыманне цэн на фіксаваным узроўні Мінсельгасхарчу 134 млн. рублёў, Мінлегпрому — 220, Мінгандлю — 35, Белкаапсаюзу — 26, Мінхлебапрадукту — 24 млн. рублёў.

Каб ва ўмовах парушанага парытэту цэн не дапусціць развалу сельскай эканомікі, Савет Міністраў, як вы ведаеце, прыняў рашэнне выдзеліць аграпрамысловаму комплексу з бюджэту рэспублікі 3 мільярды рублёў. З гэтай сумы 2 мільярды 70 мільёнаў рублёў накіравана на ўстанаўленне надбавак да закупачных цэн на жывёлу, птушку, малако і асноўную прадукцыю земляробства.

Разам з тым выкананне бюджэту ўскладняецца з-за недапаступлення сродкаў у фонд фінансавай падтрымкі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. З прадугледжаных двух мільярдаў рублёў паступіла 340 млн. рублёў і чакаецца да канца года яшчэ 400—500 млн. рублёў. Гэта болей чым у два разы менш намечанага. Даводзіцца шукаць крыніцы для пакрыцця гэтай нястачы.

Ва ўмовах адсутнасці пагадненняў паміж удзельнікамі эканамічнага саюза ўсё цяжэй забяспечваць устойлівасць бюджэту.

Нядаўна нас паставілі перад фактам павелічэння аптовых цэн на нафту і нафтапрадукты, што паступаюць з Расіі, а гэта можа абярнуцца стратамі для бюджэту рэспублікі ў гэтым годзе амаль на 200 мільёнаў рублёў.

Немалыя страты нясём таксама ў сувязі з пастаянным павышэннем дагаворных цэн на бавоўну, воўну, скуру і іншыя сыравінныя рэсурсы, якія завозім.

У гэтых абставінах мы вымушаны проціпастаўляць у адказ свае меры. Гэта і пастаўка за межы рэспублікі нашай прадукцыі з надбаўкамі да цэн, і пераход на дагаворныя цэны замест фіксаваных.

Пазіцыя ўрада тут такая: увядзенне ў адносінах да нас дыскрымінацыйных мер па цэнах на сыравінныя рэсурсы павінна кампенсавацца вартасцю прадукцыі, што пастаўляецца за межы рэспублікі. Хаця, як разумееце, усё гэта павялічвае агульны грашовы абарот, стварае залішняе напружанне ў адносінах са спажыўцамі. На жаль, іншых сродкаў мы не маем.

У апошні час усё часцей паўстае пытанне пра нібыта нейкія празмерныя ўзносы рэспублікі ў саюзны бюджэт. Хацелася б далажыць, што ў параўнанні з іншымі рэспублікамі ў бягучым годзе мы дамагліся больш ільготнага становішча. Наша рэспубліка адзіная, якая не ўдзельнічае ў фарміраванні агульнасаюзнага фонду стабілізацыі (хоць расходы за кошт яго мы ажыццяўляем).

Не ўносім мы і фіксаванай долі сродкаў на агульнасаюзныя праграмы. Наш удзел абмяжоўваецца пералічэннем падатку на прыбытак па стаўцы 17 працэнтаў і 30 працэнтаў ад сумы падатку з продажу, а таксама даходаў ад знешнеэканамічнай дзейнасці.

Усяго за 8 месяцаў у саюзны бюджэт пералічана 2,4 мільярда рублёў. Сувымяраючы гэта з удзелам у выдатках на абарону, унутраныя войскі, кіраванне, іншыя агульнасаюзныя мерапрыемствы, мы бачым, што ў дадзеным выпадку ніякага закабалення рэспублікі няма.

Да таго ж толькі на затраты па ліквідацыі чарнобыльскай катастрофы мы ўжо атрымалі ў гэтым годзе 2,3 мільярда рублёў.

Такая сітуацыя сёння. Надалей, самі разумееце, становішча мяняецца карэнным чынам. Няма Саюза — няма і плацяжу. Вось створым эканамічнае супольніцтва, тады будзем глядзець, якія плацяжы павінны быць, які іх памер і гэтак далей.

Рэальна ацэньваючы цяперашнюю фінансавую сітуацыю ў рэспубліцы, зусім відавочна, што без яе стабілізацыі, умацавання рубля, утаймавання інфляцыі не могуць быць рэалізаваны ніякія меры па аздараўленню эканомікі.

Выйсце з гэтай сітуацыі — у скаардынаваных дзеяннях суверэнных рэспублік па частцы гранічных узроўняў дэфіцытаў іх бюджэту і крыніц пакрыцця, крэдытнай палітыкі і ўзмацнення жорсткасці кантролю за грашовай масай, скарачэння неперашачарговых выдаткаў, удасканалення падатковага заканадаўства, цэнавай палітыкі, асабліва лібералізацыі цэн з адначасовым дзеяннем механізма дзяржаўнай сацыяльнай абароны насельніцтва з фіксаваным узроўнем даходаў.

Дагэтуль пралічана некалькі варыянтаў выдаткаў бюджэту на будучы год, і нам давядзецца выбіраць аптымальны. Але любы з іх выводзіць на дэфіцыт, які найменей у два разы перавышае цяперашні.

Галоўным у павелічэнні бюджэтных выдаткаў з'яўляецца тое, што ў сувязі з абвяшчэннем дзяржаўнай самастойнасці давядзецца фінансаваць за кошт сродкаў бюджэту рэспублікі выдаткі на ўтрыманне органаў дзяржаўнай бяспекі, пракуратуры, падраздзяленняў Міністэрства ўнутраных спраў, уключаючы ўнутраныя войскі, неабходна будзе браць на сябе ваенныя выдаткі і ўтрыманне многіх іншых структур, якія раней фінансаваліся з саюзнага бюджэту.

Пра інвестыцыі ў сувязі са станам бюджэту. Пераважная доля інвестыцыйных рэсурсаў фарміруецца ўжо сёння не на ўзроўні ўрада, а непасрэдна прадпрыемствамі і арганізацыямі, тым больш што магчымасці бюджэту надзвычай абмежаваныя.

Мы вымушаны будзем нейкім чынам знаходзіць сродкі для будаўніцтва сацыяльных аб'ектаў, а ўсё, што датычыць вытворчых, — з бюджэту давядзецца выключыць.

У нас ёсць намер прапанаваць Вярхоўнаму Савету ўвесці зусім новую падатковую сістэму, адпавядаючую эканамічным умовам, якія мяняюцца. Яна дазволіць забяспечыць пашыраную і больш устойлівую даходную базу бюджэту. Мы спадзяёмся, што дэпутаты падтрымаюць увядзенне такіх новых даходных крыніц, як падатак на дадзеную вартасць, акцызны падатак, падатак на нерухомасць, плату за выкарыстанне прыродных рэсурсаў.

Значныя змены ўносяцца і ў іншыя віды падаткаў. Адначасова прапаноўваецца адмяніць падатак з абароту, змяніць прынцыпы падаткаабкладання на прыбытак. На гэтым тыдні мы будзем абмяркоўваць дадзеныя пытанні з навукова-прамысловай асацыяцыяй.

Але нельга не ўлічваць і тое, што прыбытак расце хутчэй, чым поўніцца бюджэт. У бягучым годзе ў прамысловасці ён узрос амаль у два разы, а плацяжы з яго ў бюджэт — толькі ў 1,7 раза. Амаль паўсюдна на рахунках прадпрыемстваў рэзка павялічыліся свабодныя рэшткі грошай, а бюджэт адчувае велізарныя цяжкасці. Тут, як бачыце, не ўсё ўвязана.

Шаноўныя народныя дэпутаты!

Вялікім клопатам урада з'яўляецца ўсё, што звязана з сацыяльнай абароненасцю насельніцтва. Становішча настолькі складанае, што гэтыя пытанні сталі галоўнымі ў нашай паўсядзённай дзейнасці і патрабуюць скрупулёзнага аналізу.

Агульны памер кампенсацый практычна пагасіў павелічэнне выдаткаў насельніцтва ў сувязі з красавіцкім павышэннем рознічных цэн.

І я павінен вам сказаць, што цэнавая рэформа для бюджэту нічога не прынесла, акрамя цяжкасцей і складанасцей. Калі разам скласці ўсе выплаты — і кампенсацыі, і павышэнне заработнай платы, пенсій і дапамог, гэта значыць усё тое, што ў поўнай меры было звязана з новымі цэнамі,— то агульная сума аказалася значна вышэйшай, чым паступленні ад павышэння цэн.

Калі да гэтага дадаць, што асноўную цэнавую прыбаўку атрымалі праз прыбытак непасрэдна прадпрыемствы, а не бюджэт, то ў немалой ступені існуючы сёння бюджэтны дэфіцыт народжаны праслаўутай паўлаўскай рэформай.

Я больш не хацеў бы закранаць цэнавую рэформу, але зазначу, што цэны на асноўныя спажывецкія тавары выраслі ў гэтым годзе ў 1,6 раза, а даход насельніцтва ў выніку рознага роду выплат і кампенсацыі вырас больш чым у два разы.

Грашовыя даходы людзей, а яны склалі за 9 месяцаў 35 млрд. рублёў пры тавараабароце і платных паслугах у 23 млрд. рублёў, натуральна, шукаюць сферу прымянення. Урад робіць усё магчымае для таго, каб падтрымаць спажывецкі рынак. Больш як у мінулым годзе прададзена сёння тэхнічна складаных вырабаў, у тым ліку тэлевізараў і халадзільнікаў, а таксама шэрагу іншых нехарчовых тавараў. Без асаблівых перашкод ідзе гандаль мясам, малочнымі прадуктамі, хлебам і хлебабулачнымі вырабамі.

Але становішча на спажывецкім рынку вельмі цяжкае. Шмат чаго не хапае. Прылаўкі магазінаў пустыя, і гэта выклікае справядлівае нездавальненне.

Зразумела, калі параўнаць тое, што мы вырабляем і пастаўляем гандлю, будзе відавочна: становішча з забеспячэннем нашага насельніцтва было б значна лепшым. Нягледзячы на ўсе прынятыя намі меры, шмат тавараў вывозіцца. Бо на кожнай сцежцы кантрольны пункт не выставіш. Да таго ж такіх пунктаў няма на чыгунцы. Гэтым і карыстаюцца.

Усё гэта яшчэ раз пераконвае ў тым, што нам трэба хутчэй уводзіць у поўным аб'ёме ўсю сістэму ўласнай пагранічна-мытнай аховы. Работа гэта пачалася.

Апрача таго, будзем дамаўляцца з рэспублікамі аб каардынацыі ўзроўню цэн на асноўныя тавары.

Урад вельмі турбуюць праблемы аховы насельніцтва ад раз'юшанай злачыннасці. Дэпутаты падымаюць на гэты конт слушныя пытанні і правільна выказваліся пры назначэнні Генеральнага пракурора.

Зазначу: становішча не з лёгкіх. Але пасля таго, як мы здолелі вызначыць асноўныя напрамкі нашых дзеянняў, матэрыяльна падмацаваць міліцыю, становішча стала лепш кантраляваца. Нешта абнадзейваючае паявілася.

Цяпер некалькі менш забойстваў, злачыннасці на вуліцах. Але да сур'ёзнага паляпшэння ўсёй справы яшчэ далёка.

Бясспрэчна, міліцыю трэба значна лепш тэхнічна аснасціць. Гэта робіцца.

Але трэба ўсвядоміць, што толькі з дапамогаю міліцыі мы са злачыннасцю не справімся. Злачыннасць — гэта адлюстраванне сацыяльна-эканамічнага становішча. Трэба перш за ўсё яго палепшыць, тады і злачыннасці будзе менш. Якраз у гэтым мы бачым сваю галоўную задачу.

Пераход да рыначных адносін з усёй вастрынёй паставіў пытанні занятасці насельніцтва. І гэта непазбежна, паколькі рынак — не толькі новыя адносіны ў эканоміцы, але і яе глыбокая перабудова, якая непазбежна суправаджаецца пераразмеркаваннем рабочай сілы. На нейкі кароткі прамежак часу той або іншы работнік можа аказацца незанятым на вытворчасці. Так яно ўжо і ёсць.

Але я катэгарычна супраць таго, каб праблему беспрацоўя раздзімалі, нагняталі страх.

Тое беспрацоўе, якое ў нас узнікла і мае чыста лакальны характар, звязана часцей за ўсё з пераходамі на іншую работу, і мы не дапусцім, каб нашы цэнтры працаўладкавання ператварыліся ў канторы па выдачы дапамогі. Нам такія канторы не патрэбны. Нам патрэбна, каб цэнтры аператыўна дапамаглі чалавеку ўладкавацца на працу, тым больш, што ў нас незанятых рабочых месц у прамысловасці, у будаўніцтве, у сельскай гаспадарцы дастаткова.

Мы не настолькі багатыя, каб мець беспрацоўе як маштабную з'яву. Трэба ўсім зразумець, што раскошу мець такое беспрацоўе можа дазволіць сабе толькі эканоміка, дзе ёсць перавытворчасць. Калі ж грамадства беднае, то павышэнне эфектыўнасці вытворчасці за кошт яе скарачэння — гэта абсурд, гэта вынік дрэннага, бяздарнага кіравання.

Нам неабходна пазбаўляцца ад стэрэатыпаў масавага мыслення. Неабходна іншая жыццёвая філасофія, у якой бы перамена працы і нават ладу жыцця расцэньвалася як з'ява абсалютна нармальная, якая не толькі не пагражае крахам, а нават дае чалавеку шанц праявіць сябе ў новых абставінах, раскрыць свой патэнцыял, свае магчымасці.

У вырашэнні ўсіх сацыяльных пытанняў і перш за ўсё тых, што датычаць працоўнага чалавека, павінна ўзрасці роля прафсаюзаў. Урад усяляк садзейнічае гэтаму. Заключана пагадненне з Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі. Ніводзін праект заканадаўчых актаў, якія датычаць працоўных праблем альбо праблем законнасці, не разглядаецца ўрадам без удзелу прафсаюзаў. Так ёсць, і так будзе надалей.

Але мы ўсё больш і больш пераконваемся, што манапалізм прафсаюзаў такі ж шкодны, як і манапалізм вытворчасці. І шкода гэта ўзрастае, калі лідэры прафсаюзаў імкнуцца ад імя тысяч працаўнікоў на хвалі голага папулізму парушыць тую, яшчэ зусім кволую, сацыяльную раўнавагу, якую Вярхоўнаму Савету і ўраду на аснове кансалідацыі сіл пры падтрымцы большасці насельніцтва ўдалося стварыць.

Лічу, што дэпутаты павінны яшчэ раз уважліва перагледзець праект Закона аб прафсаюзах, каб ён не даваў аніякіх падстаў для манапалізму. Гэта будзе толькі на карысць справе.

Паважаныя народныя дэпутаты!

Тое кола пытанняў у галіне эканомікі, фінансаў, сацыяльных праблем, якое ўзнята ў гэтым дакладзе, па сутнасці з'яўляецца зместам нашай дзяржаўнасці. І вельмі важна, каб прававыя асновы, нашы адносіны з іншымі дзяржавамі дазвалялі вырашаць праблемы так, як таго патрабуюць карэнныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь.

Што датычыць заканадаўчай базы, то такая работа вядзецца. І на разгляд гэтай сесіі Вярхоўнага Савета ўнесены шэраг праектаў законаў, якія маюць прамыя адносіны да нашай дзяржаўнасці і незалежнасці рэспублікі.

Больш складана з фактычнай рэалізацыяй дзяржаўнасці. Тут усё можна было б умоўна раздзяліць на тры буйныя блокі. Гэта — рэалізацыя дзяржаўнасці ў галіне эканомікі, знешняй палітыкі і знешнеэканамічных сувязей, арганізацыя абароны дзяржаўных інтарэсаў рэспублікі.

Коратка пра тое, як мы гэта ўсё разумеем.

У галіне эканомікі — гэта нарошчванне нашага патэнцыялу і што мае асабліва важнае значэнне, дык гэта стварэнне здаровых эканамічных адносін з незалежнымі рэспублікамі былога Саюза. Тут у нас вялікі інтарэс. Без выгаднага партнёрства нам не абысціся, і гэта ведаюць усе. Вось чаму нам вельмі патрэбны дагавор аб эканамічным супольніцтве.

Па даручэнню Прэзідыума Вярхоўнага Савета я, як кіраўнік урада, актыўна падтрымаў алма-ацінскую сустрэчу і праект, што на ёй разглядаўся. Тым больш, што і ў ходзе самой сустрэчы, і пры падрыхтоўцы праекта дагавора мы выказвалі шэраг заўваг, і яны ўлічаны. Таму мяркую, што чым раней будзе падпісаны дагавор, тым лепш. Гэта прынясе карысць для ўсіх.

Дарэчы, у нашых адносінах з рэспублікамі можа ўзнікаць і ўжо ўзнікае шэраг пытанняў, якія выходзяць за рамкі гаспадарчых сувязей. Гэта паказалі апошнія падзеі ў Чарнобылі.

Вы ведаеце, што некалькі дзён таму назад на Чарнобыльскай АЭС узнік пажар. Па даных спецыялістаў і прадстаўнікоў рэспублікі, якія туды былі накіраваны, радыяцыйнай небяспекі на гэты раз не ўзнікла. Аднак тое, што здарылася, яшчэ раз востра нагадала аб тым, што страшэнная пагроза працягвае існаваць.

Станцыя зараз з'яўляецца ўласнасцю Украіны, і цяпер Украіна нясе адказнасць за ўсё, што адбываецца. Лічу, што неабходна на самым высокім, парламенцкім, узроўні дамовіцца аб поўным спыненні эксплуатацыі гэтай станцыі і дэмантажы абсталявання.

Трэба таксама неадкладна пачаць распрацоўку прававых дакументаў, у якіх была б зафіксіравана адказнасць Расіі і Літвы наконт магчымых экалагічных і іншых вынікаў эксплуатацыі Смаленскай і Ігналінскай атамных станцый.

У галіне знешняй палітыкі, па меркаванню ўрада, нам патрэбна вельмі дэталёва разабрацца з усімі пытаннямі, бо ўсё, што рабілася дагэтуль, мае вельмі мала агульнага з незалежнай дзяржавай.

За мяжой пакуль вельмі асцярожна ставяцца да працэсаў, якія адбываюцца ў рэспубліцы. Многія дзяржавы занялі ў асноўным пазіцыю чакання. Рэальнасць такая, што мы павінны зрабіць усё для таго, каб паскорыць прызнанне Беларусі іншымі дзяржавамі, якія ўсё яшчэ бачаць нас састаўной часткай Саюза. Між тым у нас ёсць гісторыя самастойных дыпламатычных адносін. У пачатку 20-х гадоў рэспубліка мела іх з дзевяццю еўрапейскімі дзяржавамі.

Бліжэйшую задачу мы бачым у тым, каб пераламаць становішча, наладзіць кантакты з усімі дружалюбнымі дзяржавамі і перш за ўсё развіваць і ўмацоўваць іх з нашымі суседзямі.

У нас нядрэнныя адносіны з прыбалтыйскімі рэспублікамі, і мы іх будзем развіваць далей.

Традыцыйна цесныя сувязі існуюць у рэспублікі з Польшчай. У нас узаемаразуменне з цяперашнім яе кіраўніцтвам. Гэта пацвердзіў мой нядаўні візіт у Польшчу. Падпісаны Дэкларацыя аб асновах добрасуседскіх адносін і пагадненне аб гандлі і эканамічным супрацоўніцтве. Адбыліся сустрэчы з прэзідэнтам Польшчы Лехам Валенсам і прэм'ерам Кшыштафам Бялецкім, якія насілі выключна адкрыты і сяброўскі характар.

У галіне знешнеэканамічных сувязей урад бачыць сваю галоўную задачу ў тым, каб выклікаць у развітых дзяржаў інтарэс да эканамічнага супрацоўніцтва з намі і прыцягнуць дзелавыя колы гэтых краін да ўдзелу ў тых глыбокіх пераўтварэннях, якія мы праводзім. І тут нас асабліва цікавіць вопыт тых дзяржаў, якія здолелі, не маючы буйных запасаў мінеральна - сыравінных рэсурсаў, у кароткія тэрміны трывала паставіць на ногі свае нацыянальныя эканомікі, ажыццявіць сапраўды грандыёзны прарыў да росквіту.

Гэтаму і служылі паездкі ўрадавых дэлегацый у Японію і Рэспубліку Карэя. Калі хочаце, карэйскі вопыт, асабліва па падабенству стартавых умоў, для нас выключна прымальны.

Зразумела, гэта не значыць, што нас цікавяць толькі названыя краіны. У нас ужо створана добрая аснова для эканамічнага супрацоўніцтва з многімі дзяржавамі Еўропы і ЗША.

У справе непасрэднай абароны нашай маладой дзяржавы ёсць таксама вельмі многа праблем. Вось чаму ўрад працуе над тым, каб як мага хутчэй вырашыць усе пытанні, звязаныя з аховай меж і арганізацыяй мытнай службы.

Больш складанае становішча з арміяй. Мне здаецца, неабходна ў Вярхоўным Савеце вызначыцца ў галоўным. Што я маю на ўвазе? Як і для любой дзяржавы, утрыманне арміі — вельмі цяжкая нагрузка для бюджэту. Дапусцім, што гэту нагрузку возьмем. Але калі мы стаім на тым, што наша рэспубліка павінна быць бяз'ядзернай і нейтральнай, то трэба зусім дакладна ўсвядоміць: ці патрэбна нам шматлікая армія?

А што датычыць цяперашняга становішча ваеннаслужачых, то мы ва ўрадзе добра разумеем, наколькі яно цяжкае, і, па меры магчымасцей, імкнёмся дапамагчы ваеннай акрузе ў гэтых клопатах.

Перабудова эканомікі, станаўленне незалежнай дзяржавы аб'ектыўна патрабуюць фарміравання і адпавядаючай гэтым працэсам структуры кіравання. Урад зараз такую работу вядзе, па многіх напрамках яна ўжо завяршаецца, і ў бліжэйшы час гэтыя пытанні будуць вынесены на разгляд Вярхоўнага Савета. Адначасова запрашаю да работы ва ўрадзе, прычым на любым узроўні, прадстаўнікоў усіх палітычных груп і плыней, прадстаўленых у нашым парламенце.

Паважаныя дэпутаты! Як бачыце, і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы, і ў станаўленні дзяржаўнасці перад намі маса спраў. Справіцца з імі нялёгка. Сёння літаральна ва ўсім патрэбны дзяржаўная мудрасць, разлік і абачлівасць. Зараз як ніколі патрабуецца адзінства дзеянняў парламента і ўрада. Па-мойму, асновы для гэтага закладзены, і мы павінны іх эфектыўна развіваць.

Дзякуй за ўвагу.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

## СМАЛЕНСК—БАРЫСАЎ: ЧЫЯ ВОЗЬМЕ?

**Неспакойна гэтымі днямі на тэрыторыі барысаўскай аўтабазы № 70. 15 кастрычніка, напрыклад, рабочыя заблакіравалі вароты прадпрыемства і не выпускалі аўтамабілі.**

Сітуацыя такая: большасць вадзіцеляў аўтабазы, якая яшчэ два гады назад уваходзіла ў састаў трэста «Белдарбуд», зараз знаходзіцца ў падпарадкаванні «Смаленскдарбуда», і расклад работы іх выглядае так: 15 дзён работы на будаўніцтве дарог у Смаленскай вобласці, 15 — адпачынак дома, у Барысаве. Тут жа знаходзіцца і ўпраўленне аўтабазы.

Але вось аб'яўлена незалежнасць рэспублікі, і надумалі смаленскія начальнікі перагнаць тэхніку беларускага філіяла ў свой горад. Няцяжка здагадацца, што чакае ў гэтым выпадку барысаўскіх шафёраў — многія з іх могуць страціць работу. Зразумела, што такая перспектыва барысаўчан не радуе, вось і пратэстуюць яны, заяўляючы: «Хочам працаваць на Беларусі і для Беларусі».

**Агенцтва «БелаПАН».**

## І ПРА СЯБЕ ПАДУМАЛІ, І ПРА ПЕНСІЯНЕРАЎ

**ЖЛОБІН. (У. Пернікаў). На мясакамбінаце прайшла канферэнцыя працоўнага калектыву. Дэлегаты прагаласавалі за выхад з сістэм абласнога аб'яднання мяса-малочнай прамысловасці і поўную эканамічную і гаспадарчую самастойнасць.**

Прыняты таксама рашэнні аб увядзенні дадатковых сацыяльных ільгот. Па 50 рублёў у месяц будуць атрымліваць тыя, хто жыве на прыватных кватэрах, па 400 рублёў адпушчана кожнаму працаўніку на тое, каб зрабіць неабходныя нарыхтоўкі на зіму. Прадугледжаны кампенсацыі ў выпадку вытворчых траўм, не пакінуты без увагі і пенсіянеры.

## «ДРЭВААПРАЦОЎКА-91»

**МІНСК. Пад такой назвай у выставачным комплексе праводзіцца міжнародная спецыялізаваная выстава абсталявання і тэхналогій мэблевай і дрэваапрацоўчай вытворчасці, якую арганізавала Усесаюзнае аб'яднанне «Экспацэнтр» па ініцыятыве Мінлеспрама.**

У міжнародным аглядзе ўдзельнічае каля 100 фірм, прадпрыемстваў і арганізацый з 10 краін. Цэнтральнае месца на выставе займае абсталяванне для мэблевай вытворчасці. У экспазіцыі будуць дэманстравацца таксама прыборы для кантролю за аховай навакольнага асяроддзя, у прыватнасці, абсталяванне высокаэфектыўнай ачысткі пылавых выкідаў (распрацоўка НВА «Плітпрам»).

Будзем спадзявацца, што экспазіцыя выставы паслужыць тэхналагічнаму абнаўленню рэспубліканскай мэблевай вытворчасці, устанаўленню новых гандлёва-эканамічных сувязей з замежнымі краінамі.

## ПА ГРЫБЫ... У СКЛЕП

**ПІНСК (С. Шапіра). Грыбы... з дастаўкай на дом. Такую незвычайную паслугу аказвае пінчанам адно з малых прадпрыемстваў горада. Дастаткова набраць тэлефонны нумар, зрабіць заказ — і на працягу паўгадзіны прама на кватэру вам даставяць толькі што зрэзаныя шампіньёны.**

А вырашчаны яны аматарамі ў прыстасаваных падвалах. Праўда, цана далікатэсаў злёгку «кусаецца»— 15 рублёў за кілаграм. Але трэба ўлічыць, што грыбы экалагічна чыстыя. У далейшым, калі грыбны канвеер запрацуе на поўную сілу, цана знізіцца.

## КАГО Ж ВАРТАЎНІКАМІ СТАВІМ?

**У мінулыя суткі паведамлялася пра крадзеж грошай з незачыненага на ноч кабінета намесніка дырэктара СШ № 111 Заводскага РАНА. Злачынца ўстаноўлены. Ім аказаўся 65-гадовы М., раней судзімы, які працуе... вартаўніком указанай школы. Выкрадзенае канфіскавана. Калі ж адпаведныя службовыя асобы навучацца падбіраць кадры работнікаў аховы?**

## НАРЭШЦЕ ПАВЕРЫЎ

**Нават у нашы «вясёлыя» часы сенсацыяй стала паведамленне ўкраінскіх газет аб тым, што пасля 44-гадовага падпольнага існавання афіцыяльна аб'явіўся былы салдат Украінскай паўстанцкай арміі, змагар за незалежнасць Украіны ў 40-х гадах Яраслаў Максімавіч Галашчук.**

Усе гэтыя дзесяцігоддзі 70-гадовы герой сенсацыі хаваўся ў бацькоўскім доме ў райцэнтры Тлумач, што на Івана-Франкоўшчыне. Ніхто і не падазраваў пра яго існаванне, хоць многія хадзілі ў пашытым Галашчуком адзенні. Ён навучыў сваю сястру Вольгу здымаць меркі, хаваўся, пакуль яна прымала кліента, а затым прымаўся за справу. Фасоны вывучаў па модных часопісах, якія таксама даставала Вольга. На вуліцу Галашчук выходзіў рэдка і выключна ўначы. Толькі пасля правалу путчу ён паверыў у тое, што яго не пасадзяць у турму і не расстраляюць.

**В. ГУЛЕНКА.**

## ДАПАМОГА СТАРЫМ

**СВЕТЛАГОРСК. Больш трыццаці адзінокіх старых гараджан атрымалі па мяху бульбы і па некалькі кілаграмаў буракоў і морквы. Пры маленькай пенсіі і высокіх цэнах такая падтрымка многа значыць. А аказаў яе адзінокім старым гарадскі камітэт таварыства Чырвонага Крыжа, які закупіў бульбу і гародніну за свае сродкі і з дапамогай аўташколы ДТСААФ развёз па кватэрах.**

## МІЛАСЦЮ НЯБЁСАЎ



І сапраўды, «у кашулі нарадзіўся» Аляксандр РАЖДЗЕСТВЕНСКІ — вадзіцель з Віцебска. На восьмым кіламетры шашы Віцебск — Сураж яго «МАЗ» раптам рэзка збочыў направа і, зламаўшы некалькі дрэў, перакуліўся ў кучу металу. Сам жа вадзіцель абышоўся лёгкім шокам і драпінай. Па сведчанню Аляксандра, яго машына апынулася ў кювеце пасля нейкай пстрычкі ў рулявым кіраванні. Ні чым іншым, як міласцю нябёсаў, лічыць вадзіцель сваё цуда-выратаванне.

Фота А. НІКАЛАЕВА (БЕЛТА).

Выпуск падрыхтавалі: І. КАРНЕЙ, А. КОКТЫШ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ, І. ШЧУЧЭНКА.
Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.

## Ад нашага ўласнага карэспандэнта

**Приступіў да работы ў краінах Балтыі ўласны карэспандэнт газеты «Звязда» Алег КРУЧОК. Ён нарадзіўся ў Гродна. Журналіст. Сёння мы змяшчаем першыя два матэрыялы, якія падрыхтаваў А. Кручок,— з Латвіі і Літвы.**

# Асцярожна: грамадзянства!

Уся Латвія цяпер узбуджана. На вуліцах, у кватэрах, у парламенце ідзе абмеркаванне праектаў Закона аб грамадзянстве рэспублікі. Страсці падагрэла публікацыя ў газеце «Советская молодежь — сегодня» інтэрв'ю з кіраўніком адной з радыкальных партый Лацысам пад загалоўкам «Вы — не грамадзяне... Вы наогул ніхто».

Амаль мільённае рускамоўнае насельніцтва Латвіі ўстрывожана заявай Лацыса, што грамадзянамі рэспублікі могуць быць толькі тыя, хто жыў у Латвіі да 1940 года, і іх нашчадкі. У такім выпадку амаль усе рускія становяцца мігрантамі і без усялякіх прыкрас—людзьмі другога сорту. Дзякуй Богу, страсці ўдалося крыху пагасіць і заняцца парламенцкай работай над праектам Закона.

9 кастрычніка латвійскі парламент галасаваў два праекты Закона аб грамадзянстве, вылучаных фракцый Народнага фронту. Першы праект юрыста Боярса — дакладнае ўзнаўленне выказванняў Лацыса, аформленае ў пункты і артыкулы. Аднак парламент гэты праект не прыняў.

Другі праект, юрыста Лапіньша, больш лаяльны. Адным пунктам гэты праект аднаўляе ў грамадзянстве тых, хто жыў у Латвіі да 1940 года, і іх нашчадкаў, а другім — прадугледжвае ўступленне ў грамадзянства тых людзей, хто падтрымлівае незалежнасць Латвіі і жадае быць яе грамадзянінам. Каго дапускаць да ўступлення — павінны вырашыць або ўсеагульнае апытанне насельніцтва, або рэферэндум ужо аднаўленых у правах грамадзян.

Другі праект ужо нібыта прайшоў парламенцкае галасаванне, як аказалася, што не было кворуму і да таго ж два галасы былі прызнаны незаконнымі. Такім чынам, уся працэдура зноў наперадзе. Назіральнікі лічаць, што радыкалы за гэты час здолеюць сабраць сілы і настаяць на варыянце Боярса. Што будзе тады, цяжка прадказаць.

Відавочна, трэба дадаць, што калі нават рускамоўнае насельніцтва, якое прыехала ў Латвію пасля вайны, і будзе дапушчана да ўступлення ў грамадзянства, яму прыйдзецца прайсці тэстыраванне на палітычную лаяльнасць, веданне латышскай мовы, гісторыі Латвіі. А па даных Дзяржкамстата толькі 170 тысяч рускіх у Латвіі ведаюць латышскую мову. Што ж будзе з астатнімі 800 тысячамі людзей? На гэтае пытанне пакуль няма адказу.

**Алег КРУЧОК.**

# Чуткі пра «Армію Краёву»

Сенсацыйнае паведамленне ТАСС аб тым, што ў Літве, на паўднёвым усходзе, у месцах кампактнага пражывання палякаў і беларусаў, створана нейкая баявая арганізацыя «Армія Краёва» — выклікала бурную рэакцыю ва ўсёй Прыбалтыцы і Польшчы. Невядомыя мсціўцы абяцалі насмерць стаяць за далучэнне гэтых тэрыторый да Польшчы, у выпадку якога-небудзь ціску пагражалі прымяніць зброю. Гэтыя заявы прыйшліся якраз на той час, калі літоўскі парламент прыняў рашэнне аб роспуску Вільнюскага і Шальчынінкскага райсаветаў за актыўную падтрымку ГКЧП.

Сенсацыя, аднак, доўга не пражыла. Літаральна праз некалькі гадзін літоўскія ўлады абверглі паведамленне ТАСС і заявілі, што ніколі не атрымлівалі ніякіх ультыматумаў ад баявой арганізацыі «Армія Краёва» і што паводле даных МУС такой арганізацыі ў прыродзе не існуе.

Яшчэ праз суткі стала вядома, як ТАСС выйшаў на інфармацыю аб «АК». Аказалася, што святар праваслаўнай царквы аб'язджаў свой прыход, і ў час гэтай паездкі хтосьці з паствы нібыта расказаў яму пра «Армію Краёву». Святар падзяліўся гэтай інфармацыяй з карэспандэнтам агенцтва «Постфактум». Карэспандэнт апрацаваў атрыманыя звесткі і прадаў іх ТАСС. ТАСС, у сваю чаргу, «запусціў сенсацыю» па ўсіх гарадах і вёсках вялікай краіны. Механіка, як відаць, простая. Але цікавы погляд некалькіх зацікаўленых бакоў на паведамленне ТАСС.

Так, у парламенце і ўрадзе Літвы лічаць, што неіснуючая «Армія Краёва» з'явілася для таго, каб справакаваць кіраўніцтва рэспублікі на жорсткія меры супраць жыхароў паўднёва-ўсходняй часткі Літвы. Гаворачы простай мовай, літоўскія парламентарыі зноў бачаць «руку Масквы», «якая разыграла тэрытарыяльную карту». Што ж азначае з'яўленне нейкай тэрарыстычнай арганізацыі? Перш за ўсё, паліцэйскі і адміністрацыйны нагляд за тэрыторыяй, аж да ўводу камендацкай гадзіны. І, вядома, у парламенце ўздыхнулі з палёгкай, калі сенсацыя аказалася фальшыўкай.

А вось у пракуратуры Літвы некалькі іншая думка. Як расказаў адзін з яе супрацоўнікаў, які пажадаў застацца невядомым, многія следчыя лічаць зусім магчымым існаванне ўзброенай структуры на паўднёвым усходзе.

— Мы да гэтага часу не ведаем, дзе знаходзяцца многія байцы былога АМАНа разам з капітанам Макуціновічам. Мы не ведаем, колькі ў іх на руках зброі, таму што пракуратура і МУС не прымалі ўдзелу ў раззбраенні. Нашы супрацоўнікі толькі сабралі зваленыя ў кучу аўтаматы і кулямёты. Мы не ведаем, дзе зараз знаходзяцца кіраўнікі былой Кампартыі Літвы... А тут гэтае паведамленне... Вельмі цікава. Гэта, улічыце, пры ўсім пры тым, што Расія не адмовілася ад геапалітычнай дактрыны СССР. Я адчуваю, што ў нас будзе шмат работы. А яшчэ паступае інфармацыя, што часці Савецкай Арміі могуць стаць некіруемымі... Вось вы і складвайце ўсё адзін да аднаго.

Ніякіх новых фактаў, якія пацвярджаюць існаванне «Арміі Краёвай», пакуль няма і, я думаю, наўрад ці яны з'явяцца. Але вось ужо прыйшоў у літоўскі парламент другі ультыматум ад савецкіх ваенных (першы прыйшоў ад ваеннаслужачых Паўночнага гарадка ў Вільнюсе). Каўнаская дывізія паветрана-дэсантных войск заявіла аб сваім намеры не пакідаць Літву, пакуль на Усходзе не будуць створаны ўсе ўмовы для нармальнага жыцця ваеннаслужачых. Калі такія ўмовы не будуць створаны, а загад аб вывадзе прыйдзе, то дывізія пакідае за сабой права на самастойныя дзеянні.

У гэтай сітуацыі парламенту і ўраду, відаць, прыйдзецца вырвацца з прывычных фармулёвак («рука Масквы») і прыступіць з савецкім бокам да канкрэтнага абмеркавання праблем ваеннаслужачых.

**Алег КРУЧОК,**
**уласны карэспандэнт «Звязды» па краінах Прыбалтыкі.**

## ЛЮДЗІ І ПАДЗЕІ

### І ЯПОНЦАЎ ПЕРАЎЗЫШЛІ

**ПЕКІН. За мінулае дзесяцігоддзе, з 1980 па 1990 год, Кітай амаль у тры разы павялічыў здабычу прадуктаў воднага промыслу, стаўшы буйнейшым у свеце спажыўцом рыбы, крэветак, крабаў, кальмараў, малюскаў і ядомых марскіх водарасцей. Як паведаміла сёння газета «Жэньмінь жыбао», у мінулым годзе КНР пераўзышла Японію, здабыўшы ўвогуле 12,37 млн. тон рознай прадукцыі воднага промыслу. За 10 гадоў спажыванне марскіх і прэснаводных прадуктаў у краіне павялічылася з 6 да 11 кг у год на душу насельніцтва. Цяпер асабліва добра наладжана забеспячэнне «воднай прадукцыяй» гарадскіх жыхароў.**

### ПАЛЁТ КАНДОРА ПРАЦЯГВАЕЦЦА



У велікодную нядзелю 1987 года быў злоўлены апошні каліфарнійскі кандор, які жыве на свабодзе. Тым не менш гэты трагічны крок стаў пачаткам важнейшай праграмы па выратаванню велічнай птушкі, якая лунала яшчэ ў эпоху плейстацэна, калі па зусім юнай зямлі хадзілі маманты і мастадонты. Апошнія вымерлі, а палёт кандора, які доўжыўся многія тысячагоддзі, працягваўся. Пакуль ужо ў наш час птушкі не аказаліся на мяжы поўнага знікнення, стаўшы ахвярай вар'яцкага палявання, атручэння пестыцыдамі прыроды і жывёл, якія ішлі на харчаванне.

Праграма адраджэння кандораў практычна з нябыту спрацавала, хоць у яе было шмат праціўнікаў. «Сябры зямлі» і «Сіера клаб» з ліку экалагічных груповак абрушыліся з рэзкай крытыкай. Замест турэмнага зняволення птушак у заапарку, заяўлялі добразычліўцы, лепш абараніць месцы іх знаходжання. Некаторыя наогул лічылі, што кандораў трэба пакінуць у спакоі, даўшы ім магчымасць «памёрці з гонарам». Біёлагі і, у прыватнасці, кіраўнік праграмы Плойд Кіф заяўлялі ў адказ, што птушкі гінуць з такой хуткасцю, што без умяшання чалавека яны хутка знікнуць як від. Адпаведна плану, апошнія 52 птушкі з «магікан» былі сабраны ў «нябесным птушніку». У няволі вучоным удалося захаваць усё патомства.

### КОНКУРС «ТАЎСТУШАК»



У невялікім гарадку Форклі, непадалёку ад Пізы, ужо тры гады запар з поспехам праходзіць адзін з самых кур'ёзных фестываляў — «Нацыянальнае свята таўстушак». Кульмінацыйным момантам гэтага своеасаблівага шоу з'яўляецца выбранне «Міс». На вагах адна з прэтэндэнтак Марыя Пія Пучы (вага 133 кг 800 г). На жаль, яе вагі не хапіла, каб заваяваць тытул «Міс-таўстушка». Пераможцай стала служачая банка з Мансумана Тэрме (правінцыя Пістойя) Мануэла Лоці, якая важыць 153 з палавінай кілаграмы.



Як піша газета «Суомінен кувелехці», фіны з'яўляюцца заўзятымі іграмі. Прычым у апошнія гады шахматы, шашкі, більярд і карты адціснулі на другі план ігральныя аўтаматы. У іграўвыя залы ходзяць усе — ад малога да вялікага. Некаторыя ўладальнікі фірм нават скардзяцца, што іх супрацоўнікі ўмудраюцца гуляць на аўтаматах, выкарыстоўваючы для гэтага рабочы і абедзенны час...

НА ЗДЫМКУ: выручка ў хельсінкскай зале ігральных аўтаматаў «Кайвакату».

### ЛЕКІ ПАД ЗАБАРОНАЙ

**БОН. 2500 лекавых прэпаратаў не будуць больш выпісвацца нямецкімі ўрачамі для лячэння розных хвароб. Такое рашэнне прынята міністэрствам аховы здароўя ФРГ пасля завяршэння даследаванняў у галіне эфектыўнасці ўздзеяння лекаў, што выпускаюцца ў краіне. Паводле даных міністэрства, у «чорны спіс» трапіла каля шасці працэнтаў з 43 тысяч прэпаратаў, якія выпускаюцца ў ФРГ.**

**(Па матэрыялах ТАСС).**

# НАШЫ СВЯТЫ

## Ці стане чырвонае яйка афіцыйным?

НЯГЛЕДЗЯЧЫ на дзяржаўныя гульні з цыферблатамі, сонца ўзыходзіць і садзіцца ў сваю пару. Нягледзячы на перагібы дзяржаўнай палітыкі, яйкі фарбуюцца на Вялікдзень з году ў год, і хрышчаныя дзеці «атэістаў» гуляюць імі ў біткі... Здаецца, мы ўжо ўсе разам гатовыя прызнаць: пабляклі «чырвоныя лісткі» нашага календара і будучае бліжэйшага з іх —7 лістапада — выглядае больш чым сумна. Ці паспеюць парламентарыі адправіць рэвалюцыйнае свята на пенсію? Тут не да маршаў, калі ходзяць чуткі пра пагрозы новых лістападаўскіх анты-дэманстрацый. Ва ўсякім разе, справа не ў адзіным дні. Гледзячы на цяперашні савецкі каляндар, хочацца ўсклікнуць класічнае: сатры выпадковыя рысы! І — не трэба новых святаў, давайце вернем старыя, тыя, калі па агульнаму перакананню «грэх працаваць».

На маю думку, даволі аб'ектыўна складзены спіс гэтых святаў у запісцы-прадстаўленні, пададзенай у Вярхоўны Савет рэспублікі Камісіяй па культуры БНФ «Адраджэнне».

Вось яны:

**Каляды** — 25 снежня;
**Дзень незалежнасці Беларусі** — 25 сакавіка;
**Вялікдзень** — пераходнае;
**Радаўніца** — другі аўторак пасля Вялікадня;
**Купалле** — 24 чэрвеня;
**Дзень Маці** — 20 верасня;
**Дзяды** — 2 лістапада.

У прапановах, накіраваных яшчэ адной грамадскай арганізацыяй — Беларускай каталіцкай грамадой, дадаткова да названых прапануецца адзначаць:

**Дзень Грунвальдскай бітвы** — 15 ліпеня;
**Нацыянальны Дзень Друку** — 6 жніўня;
**Дзень аднаўлення незалежнасці Беларусі** — 25 жніўня.

Каб высветліць некаторыя моманты спецыяльна для чытачоў, мы пагутарылі з **актывістам гэтых арганізацый мастаком Міколам КУПАВАМ.**

— Ну, па-першае, Мікола, ці не занадта — два дні незалежнасці?

— Вы бачыце, у дзвюх гэтых датах ёсць нейкая сувязь. Вядома, у наш час і святы — раскоша. Верагодна, што мы не дазволім сабе два выхадныя дні, але Дзень рэспублікі (25 жніўня) павінен заняць пачэснае месца ў календары. Да гэтага дня і дэмакратычны рух, і Вярхоўны Савет ішлі доўга і пакутліва.

— А ці згодзіцца ўся рэспубліка святкаваць Каляды ў адзін дзень?

— Згода, між іншым, ужо знойдзена ў шырокім свеце. У Еўропе многія праваслаўныя краіны святкуюць Каляды разам з католікамі, 25 снежня. У гэты ж час пачынаюцца калядныя канікулы і святы ў амерыканцаў. Дарэчы, і беларускія эмігранты — вернікі Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы таксама святкуюць Каляды 25 снежня. Думаецца, і ў нас не трэба праводзіць нейкае размежаванне па канфесіях ці абласцях, рэгіёнах. Вярхоўнаму Савету варта вызначыць для ўсіх хрысціян адзіны святочны выхадны дзень — 25 снежня.

— Цяпер наконт ваенна-пераможных святаў. Дзень 23 лютага з яго дзяжурнымі сувенірамі, магчыма, зусім лёгка страціць сваю актуальнасць. А вось 9 мая — гэта яшчэ вельмі жывая памяць... Я разумею Вас і Вашых аднадумцаў, Мікола. У свой час з бібліятэк нават спісвалася дзіцячая кніжка з Вашымі ілюстрацыямі да народнай казкі. Пільныя вочы разгледзелі ў малюнку бела-чырвона-белыя спалучэнні... Але ці здолее спецыяльна прынятае і раней нячутае свята — Дзень Грунвальдскай бітвы падняць нашу гістарычную свядомасць?

— Так, мы памятаем і яшчэ доўга будзем памятаць 9 мая, і трэба па-ранейшаму ўшаноўваць ветэранаў і памяць ахвяр вайны ў гэты дзень. Тым не менш, трэба ўзнавіць у свядомасці і велізарнае гістарычнае значэнне Грунвальдскай перамогі для беларускай нацыі, для нашага супольнага лёсу з літоўцамі, украінцамі, палякамі... Гэта якраз пасля паражэння нямецкіх рыцараў пад Грунвальдам у гісторыю стала ўвайшлі і бела-чырвоныя сцягі, і герб «Пагоня»— з яго прамым вызваленчым зместам. А ўявіце такое: Грунвальд роўна на пяць стагоддзяў адвучыў немцаў прыходзіць на нашу зямлю з ваяўнічымі намерамі! Не зусім так, што гэта свята невядомае, прыдуманае. Яно шырока святкуецца ў Польшчы, Літве, удзел у ім бярэ і беларуская моладзь. Двойчы ўжо гэтая падзея адзначалася ў Мінску.

— Трэба яшчэ растлумачыць прапановы аб пераносе некаторых святаў.

— Будзе зусім натуральным, калі мы, беларусы, якія далі свету вядомага ўсходнеславянскага першадрукара, станем адлічваць пачатак гісторыі свайго друку не з 5 мая 1912 года, калі выйшаў першы нумар «Правды», а з 6 жніўня 1517 года, калі Скарына надрукаваў сваю першую кнігу.

Яшчэ адно старажытнейшае свята — Купалле — збераглося ў свядомасці беларусаў, у параўнанні з іншымі славянскімі народамі Еўропы, найбольш яскрава і шматколерна. Хоць яно і набыло пазнейшыя хрысціянізаваныя рысы, але па сутнасці заснавана на багатай язычніцкай міфалогіі, вельмі паэтычных абрадах, цеснай лучнасці з прыродай. Памятаеце запаведзь — збіраць зёлкі найлепш на Купалле? І тут ёсць праўдзівы сэнс — на гэты час прыпадае пік росквіту прыроды, яе цалебнай сілы. Мы прапануем адзначаць Купалле па старому стылю — у ноч з 23 на 24 чэрвеня (а не па новаму — з 6 на 7 ліпеня), бо якраз старая дата дакладна прывязана да значнай прыроднай з'явы — дня летняга сонцастаяння.

— А якім чынам змест 8-га сакавіка пераносіцца на 20-е верасня?

— 20 верасня — вялікае народнае свята Спажа (ці Спажы), дзень нараджэння Маці Божай. З ім трэба спалучыць і ўшанаванне нашых матуль, бабуль. Бо гэта — верасень: малыя дзеці ідуць у школу, якая павінна вучыць усяму лепшаму, а дарослыя часцей зазіраюць у вёску, да родных хат і ніў. Так што свята да месца.

Не трэба тлумачыць і неабходнасць афіцыйна ўзаконіць святкаванне Радаўніцы, Дзядоў — веснавога і восеньскага дзён памяці продкаў.

ТАКІЯ ВОСЬ аргументы прапануюцца ўвазе беларускага парламенту. Хоць прадстаўлены яны не адным чалавекам, а грамадскімі камісіямі, у складзе якіх кампетэнтныя этнографы, гісторыкі, дзеячы культуры, зразумела, што «святочны спіс» мае некаторы запас варыянтнасці і яшчэ не канчатковы.

Кажуць, дэпутаты, як і ўсе мы, — з хат. І каб пазнейшае палітычнае выхаванне або асабістыя прыхільнасці не перашкодзілі ім быць аб'ектыўнымі, мы просім усіх неабыякавых чытачоў выказаць свае меркаванні не адкладваючы гэты нумар. Надрукаваны спіс святаў вы можаце выразаць і, пазначыўшы свае адносіны знакамі «+» або «—», даслаць на адрас рэдакцыі. Вынікі гэтага апытання мы абавязкова перададзім у адпаведныя парламенцкія службы.

**А. ЦІХАНОВІЧ.**

## Леанід КРАЎЧАНКА:

# «Дзяржаўнай службай сыты я па горла»

**Л. Краўчанка адхілены ад займаемай пасады — звольнены ў час адпачынку. Цяпер ён беспрацоўны. Імгненна замаўчалі тэлефоны ў кватэры былога кіраўніка тэлерадыёвяшчальнай кампаніі. Большасць сяброў і знаёмых, якія яшчэ нядаўна ганарыліся асабістым знаёмствам з «самім» Краўчанкам, адвярнуліся ад яго. Перасталі званіць людзі, якія цяпер займаюць высокія пасады дзякуючы пратэкцыі Леаніда Пятровіча. Ведаючы, што тэлефоны Краўчанкі праслухоўваюцца, яму баяцца званіць. Калі былы кіраўнік ДТР здымае трубку апарата з масіўным дзяржаўным гербам і набірае нумары нядаўніх сяброў, добразычлівыя спачатку галасы, ледзь пачуўшы знаёмы тэмбр, становяцца халоднымі.**

**Былы кіраўнік ТБ у гутарцы з карэспандэнтам газеты абверг абвінавачванні ў яго адрас у сувязі з падтрымкай путчыстаў.**

— Мяркуйце самі: ці можна было лічыць незаконнымі, неадпавядаючымі канстытуцыі паведамленні за подпісамі віцэ-прэзідэнта, кіраўніка парламента, прэм'ер-міністра, першага намесніка Старшыні Савета Абароны, трох міністраў — членаў Прэзідэнцкага савета, людзей, якія займалі вышэйшыя дзяржаўныя пасады, былі зацверджаны на іх ВС СССР і З'ездам народных дэпутатаў? Заўважце, што ад імя ГКЧП быў зроблены толькі «Зварот да савецкага народа». Усе астатнія дакументы былі падпісаны Янаевым, Лук'янавым, Паўлавым...

Ці маглі кіраўнікі галоўных інфармацыйных сістэм краіны не перадаць гэтыя афіцыяльныя паведамленні? Што сказалі б масквічы, напрыклад, прачнуўшыся раніцай і ўбачыўшы на вуліцах і плошчах танкі, БТР, салдат, а тэлебачанне і радыё ў гэты час транслíравалі б звычайныя перадачы?

Цяпер усе робяць выгляд, што адразу разабраліся ў сітуацыі, адразу зразумелі, што заява аб хваробе Прэзідэнта — злосны падман. А ў мяне ў тыя дні былі падставы для сумненняў. У ліпені я ляцеў разам з Гарбачовым з Лондана, размаўляў з ім у вузкім коле. І тады, і раней — у Японіі, Раіса Максімаўна скардзілася, што Міхаіл Сяргеевіч вельмі дрэнна сябе адчувае, што да гадзіны-дзвюх ночы працуе над дакументамі, пакутуе ад галаўных боляў. І мне стала ніякавата: а раптам ў Прэзідэнта здарыўся інсульт ці інфаркт?

І калі Шэнін, які ў перыяд хваробы Івашкі і адпачынку Гарбачова замяшчаў Генсека, прасвятляў мяне ў тую страшную ноч, я быў недалёкі ад думкі, што хвароба сапраўды спасцігла Міхаіла Сяргеевіча.

Цяпер думаю: нават каб я быў экстрасенсам і даведаўся на адлегласці аб здароўі Прэзідэнта, — я ўсё роўна апынуўся б перад вельмі цяжкім выбарам. Хто б ні ўзначальваў Дзяржтэлерадыё і ТАСС — гэта маглі быць людзі з іншым прозвішчам — яны былі б ахвярамі, асуджанымі на зняволенне, бо абавязаны былі перадаваць афіцыяльныя паведамленні.

У дні дзяржаўнага перавароту я дзейнічаў на падставе Закона СССР аб друку. Яго артыкул 23-ці гаворыць: «Сродкі масавай інфармацыі, заснаваныя органамі дзяржаўнай улады і кіравання, абавязаны публікаваць афіцыяльныя паведамленні гэтых органаў». А артыкул 39-ы вызваляе ад адказнасці за распаўсюджванне звестак, «калі гэтыя звесткі ўтрымліваліся ў афіцыяльных паведамленнях».

**— Для многіх, як высветлілася, свайго роду сігналам адбою трывогі стаў паказ прэс-канферэнцыі ГКЧП 19 жніўня. Гледзячы на іх твары з прыкметамі выраджэння, людзі не столькі баяліся, колькі смяяліся. Ці разумелі вы гэта, пускаючы перадачу ў эфір?**

— Яна і для мяне стала пераломным момантам. Адношу яе да ліку лепшых перадач тэлебачання ў тыя дні. Яна была самавыкрывальнай, самазабойчай для яе «герояў».

19 жніўня ў праграме «Час» былі і іншыя сюжэты, якія выклікалі абурэнне членаў ГКЧП — кадры аб абароне «Белага дома», выступленне Ельцына. Па ходу праграмы «Час» і пасля яе, майму першаму намесніку Лазуткіну і мне званілі Пуга, Шэнін, Дзасохаў. Лаяліся, патрабавалі з'явіцца для тлумачэнняў у Крэмль. Нам званілі і перад паўторным паказам прэс-канферэнцыі членаў ГКЧП, патрабавалі «зняць» дрыжачыя рукі Янаева. Я тлумачыў, што гэта не фатаграфія, а відэазапіс.

Даставалася і за трансляцыю класічных твораў. Напрыклад, у «Лебядзіным возеры» высокапастаўленыя гледачы ўбачылі намёк на лебядзіную песню...

**— Дзе вы збіраецеся працаваць у далейшым?**

— Некаторыя прапановы ад газет ужо ёсць. Гэта, праўда, не кіруючыя пасады. Прыглядаюся. Час церпіць. Думаю, многае ў прафесіянальным плане прыйдзецца пачынаць спачатку. Але ў любым выпадку ні ў партыйных, ні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі працаваць не буду. Сыты па горла. Хацелася б сапраўднай прафесіянальнай і творчай работы.

**— Ці выклікаюць вас у якасці сведкі пры расследаванні падзей 19—21 жніўня? Ходзяць чуткі, быццам на вас заведзена крымінальная справа.**

— Пакуль мяне нікуды не выклікалі. Хоць гэтага не выключаю...

**Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**

